Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4766) 25 красавіка 2014 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся з Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу, падкрэсліў, што адна з галоўных падзей гэтага года — 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. «Сёлета мы адкрываем Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Гэта ўнікальны аб'ект на постсавецкай прасторы, у свеце і Еўропе. Мы пабудавалі яго таму, што многія пачалі забываць пра гэты перыяд гісторыі, пра гераізм, які праявіў наш народ, украінцы, расіяне і іншыя народы Савецкага Саюза ў імя выратавання Айчыны», — адзначаецца ў Пасланні.

✔ Кіраўнік дзяржавы даслаў прывітанне гасцям і ўдзельнікам XXI Міжнароднага спецыялізаванага форуму «ТІБО-2014» і XVIII Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі». «Сімвалічна, што форум «ТІБО-2014» і выстаўка «СМІ ў Беларусі» праходзяць разам, — адзначаецца ў прывітанні. — Па-за інтэрнэтам традыцыйныя СМІ сёння ўжо нельга ўявіць. Відавочна, што актыўнае пашырэнне інавацыйных тэхналогій у айчынную медыясферу — фундамент яе поспеху».

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю вядомага калумбійскага пісьменніка, журналіста і палітычнага дзеяча, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Габрыэля Гарсія Маркеса выказаў спачуванні Прэзідэнту Рэспублікі Калумбія Хуану Мануэлю Сантасу, родным і блізкім пісьменніка, а таксама ўсяму калумбійскаму народу. Як адзначаецца ў спачуванні, у Беларусі паведамленне пра смерць Гарсія Маркеса было ўспрынята з глыбокім болем і смуткам.

✔ Падчас правядзення Дзён беларускай культуры ў Францыі адбылася сустрэча Міністра культуры Беларусі Барыса Святлова з дырэктарам кабінета Міністра культуры Францыі (першым намеснікам міністра) Лоранс Анжэль. Абмеркаваны перспектывы сумеснай дзейнасці. Сёлетнія дні беларускай культуры — самы маштабны праект нашай краіны за ўсю гісторыю двухбаковых адносін: ён ахапіў 26 гарадоў Францыі.

✔ Беларускі поўнаметражны фільм «Сляды апосталаў» рэжысёра Сяргея Талыбава атрымаў спецыяльны прыз міжнароднага фестывалю дэтэктыўных фільмаў і праграм праваахоўнай тэматыкі «ДэтэктыўФЭСТ», які сабраў больш як 300 удзельнікаў з 42 дзяржаў. Сумесная работа «Беларусьфільма», «Першай кінавідэакампаніі» і тэлеканала АНТ адзначана спецыяльнай узнагародай у намінацыі «Ігравое кіно». Карціна змагла абысці сапернікаў з Расіі, Францыі, ЗША.

✔ Выхаванцы «Балетнай школы Вежнавец» (Мінск) сталі лаўрэатамі Міжнароднага конкурсу-фестывалю дзіцячай і маладзёжнай творчасці «Балтыйскае сузор'е», які праходзіў у Санкт-Пецярбургу (Расія). У творчым спаборніцтве бралі ўдзел два дзясяткі юных артыстаў ад пяці да дзесяці гадоў. Яны сабралі практычна ўсе ўзнагароды ў намінацыі «Харэаграфія» ў сваёй узроставай катэгорыі.

Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА

# Новыя ідэі, новыя магчымасці

*Фота Кастуся Дробава*




*Пераможцы адмысловай акцыі «Фота на першую», што праводзілася «ЛіМам» падчас выстаўкі «СМІ ў Беларусі» на стэндзе Выдавецкага дома «Звязда».*

**XXI Міжнародны форум па тэлекамунікацыях і банкаўскіх тэхналогіях «ТІБО-2014» і XVIII Міжнародная спецыялізаваная выстаўка «СМІ ў Беларусі» прайшлі ў Мінску. У іх межах традыцыйна былі прадстаўлены самыя передавыя дасягненні ў галіне сувязі, вылічальнай тэхнікі, а таксама паказаны ўвесь спектр айчынных СМІ. Агульная колькасць удзельнікаў форуму наблізілася да паўтара соцень.**

Ва ўрачыстым адкрыцці абодвух форумаў узялі ўдзел прадстаўнікі афіцыйных дэлегацый Расіі, Казахстана, Літвы, міжнародных арганізацый Еўразійскай эканамічнай камісіі і рэгіянальнага супрацоўніцтва ў галіне сувязі.

Першы намеснік міністра сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Шадко меў гонар зачытаць віншаванне ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам форумаў. «Беларусь вызначыла амбітную задачу ў бліжэйшыя гады стаць лідарам ва Усходняй Еўропе ў развіцці «лічбавай эканомікі». Асновай нашага поспеху, упэўнены, будуць дасягненні таленавітых беларускіх вучоных, інжынераў, праграмістаў і прадпрымальнікаў, прадстаўленыя на пляцоўцы «ТІБО-2014». — падкрэслена ў віншаванні Кіраўніка дзяржавы.

Намеснік міністра інфармацыі краіны Уладзімір Матусевіч зазначыў:

— На нашай выстаўцы сёння прадстаўлены ўвесь спектр сродкаў масавай інфармацыі краіны: гэта цэнтральныя, рэгіянальныя СМІ, мы вітаем таксама нашых сяброў і партнёраў з Расіі, Казахстана, Літвы, Кітая, Індыі. Спадзяюся, што насычаная праграма форуму прынясе поспех, што дыскусіі будуць плённымі, цікавымі, абмен новымі ідэямі, формамі працы — узаемна карысным.

І калі ўдзельнікі форумаў з Беларусі маюць магчымасць проста назіраць за дасягненнямі айчынных навукоўцаў і кампаній у галіне сувязі, то замежнікі становяцца не проста партнёрамі і экспанентамі, але таксама і пэўнага кшталту крытыкамі, рэцэнзентамі. «Мне бачна, наколькі з году ў год паляпшаецца якаснае напаўненне выстаўкі, што ўдзельнікі і госці традыцыйна бачаць новыя тэхналогіі і паслугі, накіраваныя на атрыманне народам, дзяржавай магчымасцей інфармацыйнага грамадства», — зазначыў Генеральны дырэктар Выканаўчага камітэта Рэгіянальнай садружнасці ў галіне сувязі Нурудзін Мухітдзінаў.

Але гэта, так бы мовіць, афіцыйны бок форумаў. Што ж цікавага чакала тут простых наведвальнікаў? Магчымасць паглядзець кавалачак праграмы па тэлебачанні ў фармаце *3D*; на вялікіх экранах score назіраць, як сапраўдныя вайскоўцы-курсанты гуляюць у надзвычай папулярную сёння камп'ютарную гульню *World of Tanks*, ці дачакацца сваёй чаргі і крыху пагуляць самім; пакаштаваць смачнай кавы, зваранай па новай тэхналогіі ў сучаснай кава-машыне; сфатаграфавацца з касманаўтам (на стэндзе кампаніі *Cosmos-TV*) ці з Мікалаем Гогалем (каля стэнда мабільнага аператара «МТС»). Дарэчы, Мікалай Васільевіч падчас выстаўкі выступаў у ролі вядучага літаратурнай віктарыны і запрашаў наведвальнікаў, проста адсканіраваўшы са сцэны адмысловы QR-код, зайсці ў віртуальную бібліятэку, размешчаную на сайце «МТС», і пазнаёміцца з творамі сусветнай і беларускай класікі.

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶

**Беларусь-ЮНЕСКА**

# Па Вялікім рахунку…

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі ўганараваны памятным медалём ЮНЕСКА «Пяць кантынентаў».

Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Ірына Бокава падчас знаходжання з працоўным візітам у Беларусі ўручыла прэстыжную ўзнагароду генеральнаму дырэктару тэатра Уладзіміру Грыдзюшку. «Вялікі тэатр стаў ключавым цэнтрам выканальніцкіх мастацтваў, аб'ядноўваючы людзей вакол агульных спадчын і каштоўнасцей», — падкрэсліла спадарыня Бокава, звяртаючыся да калектыву галоўнай музычнай сцэны краіны.

Дарэчы, Вялікі пакуль што адзіны тэатр у Беларусі, які мае ў сваёй «скарбонцы» памятны медаль ЮНЕСКА. Варта прыгадаць, што сярод уладальнікаў гэтай ганаровай узнагароды — знакамітая французская спявачка Мірэй Мацье, сусветна вядомы ансамбль народнага танца імя Ігара Маісеева і іншыя выбітныя калектывы і асобы.

**Іна ЛАЗАРАВА**

**Узнагароды**

# І залатыя, і дарагія

Падчас працы спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі» Міністэрства інфармацыі краіны традыцыйна падводзіць вынікі Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая ліцера». Сёлета на ўрачыстай цырымоніі ў Палацы Рэспублікі каштоўныя статуэткі ўручаліся пераможцам ужо дзясяты раз. Конкурс праводзіўся па 24 намінацыях, на ўдзел у ім арганізатары атрымалі 218 заявак.

Так, галоўную «Залатую Ліцеру» ў намінацыі «Гран-пры» «Лепшы творчы праект года рэспубліканскіх друкаваных СМІ, інфармацыйных агенцтваў» атрымала газета «Звязда» за спецвыпуск «Плацдарм». А Гран-пры «За лепшы творчы праект года раённых, гарадскіх, шматтыражных друкаваных СМІ» за рэалізацыю праекта «Мядзельшчына — сталіца турызму і аздараўлення» прысуджана рэдакцыі газеты «Нарачанская зара».

Лепшым выданнем для дзяцей і юнацтва былі названы часопіс «Буся», а часопіс «Пачатковая школа» атрымаў «Залатую Ліцеру» ў намінацыі «Лепшае спецыялізаванае выданне». Агенцтва «Минск-Новости» перамагло ў катэгорыі «Лепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі».

Дарэчы, на рахунку газеты «Звязда» — яшчэ чатыры ўзнагароды. «Лепшым аглядальнікам» журы назвала Святлану Яскевіч, уласнага карэспандэнта «Звязды» па Брэсцкай вобласці. Узнагарода ў намінацыі «Лепшы фотакарэспандэнт рэспубліканскіх, абласных друкаваных СМІ» дасталася вядучаму фотакарэспандэнту Яўгену Пясецкаму. Лаўрэатам у намінацыі «Лепшыя матэрыялы па тэматыцы спорту і здаровага ладу жыцця» стала рэдактар аддзела здаровага ладу жыцця Святлана Барысенка. А рэдактар аддзела эканомікі Уладзіслаў Кулецкі атрымаў узнагароду за артыкулы на эканамічную тэматыку.

Віншуем пераможцаў!

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Новыя ідэі, новыя магчымасці

Фота Кастуся Дробава



*Намеснік міністра інфармацыі Уладзімір Матусевіч, першы намеснік міністра сувязі і інфарматызацыі Дзмітрый Шадко і Генеральны дырэктар Выканаўчага камітэта Рэгіянальнай садружнасці ў галіне сувязі Нурудзін Мухітдзінаў урачыста адкрываюць ХХІ Міжнародны форум па тэлекамунікацыях і банкаўскіх тэхналогіях «ТІБО-2014» і XVIII Міжнародную спецыялізаваную выстаўку «СМІ ў Беларусі».*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Але не толькі вядомы пісьменнік, 205-годдзе якога мы адзначаем сёлета, нагадваў пра літаратуру падчас форуму. Так, на стэндзе Выдавецкага дома «Звязда» можна было паўдзельнічаць у бяспройгрышнай латарэі і атрымаць у падарунак нумар газеты «Літаратура і мастацтва», запоўніць анкету і разам з часопісам «Полымя» спрычыніцца да вызначэння сучаснай беларускай класікі ды, натуральна, пагартаць кнігі. Папяровыя. Каб патрымаць у руках «чыталку»-рыдар для кніг электронных, трэба было завітаць да прадстаўнікоў кампаніі *Техет*.

Мне ж было цікава даведацца, чытаюць ці не гандляры электроннымі кнігамі класічныя, папяровыя выданні? Ці вераць у смерць кнігі? Ігар Ярома, менеджар *Техет* па прадукце, распавёў, што сам з задавальненнем чытае папяровыя кнігі, але паколькі ў сферы яго зацікаўленняў — тэхнічныя навінкі і інфармацыйныя тэхналогіі, то такія выданні ў нашай краіне складана знайсці ў класічным прадстаўленні. Таму даводзіцца чытаць з рыдара ці планшэта. Дарэчы, за лёс папяровай кнігі спецыялісты *Техет* не перажываюць. Такая кніга будзе жыць! А вось у «чыталкі» для электронных выданняў будучыня вызначаная не настолькі дакладна. Іх у хуткім часе могуць выцесніць з рынку шматфункцыянальныя планшэты.

Што і трэба было даказаць: класіка не памірае. Але, магчыма, для нашых унукаў сённяшнія навінкі ўжо стануць класікай?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# На ўзроўні «Оскара»

Яркае жывое шоу з чырвонай дарожкай, 3D-эфектамі, «хорам хлопчыкаў» і балетам дзяўчат-тэлевядучых — усё гэта юбілейны Х Нацыянальны конкурс «Тэлевяршыня-2014».

Урачыстую цырымонію ўзнагароджання пераможцаў на вялікай сцэне Палаца Рэспублікі адкрыла відовішчная трохмерная відэаінсталяцыя. Лейтматыў вечара — прагрэс тэлевізійных тэхналогій. Арганізатары (тэлеканал АНТ) прапанавалі гледачам успомніць мінулае і перанесціся ў будучыню, змадэляваць, якім будзе тэлебачанне праз 100 гадоў. Галоўны акцэнт на дзейства — уручэнне тэлеўзнагарод года.

Асноўная мэта Нацыянальнага конкурсу «Тэлевяршыня» — спрыяе развіццю нацыянальнага тэлевяшчання, фарміраванне паўнацэннай інфармацыйнай прасторы Беларусі, павышэнне прафесійнага ўзроўню журналістаў, аператараў, рэжысёраў і работнікаў іншых прафесій, занятых у вытворчасці тэлепраграм. Прафесійнае журы (сапраўдныя тэлевізійныя мэтры) вызначала лепшых у 25 намінацыях. На конкурс было даслана больш як 200 работ з усёй Беларусі.

— На рэгіянальным тэлебачанні з'явіліся работы па-сапраўднаму высокага ўзроўню. Магілёўская, брэсцкая тэлестудыі развіваюцца вельмі актыўна. Таленавітыя, неабыякавыя журналісты добра робяць сваю справу, — адзначыў намеснік міністра інфармацыі Беларусі, сустаршыня журы конкурсу «Тэлевяршыня-2014» Уладзімір Матусевіч.

Вага «Вяршыні» — паўтара кілаграма, вышыня — 39 сантыметраў, упрыгожанне сімвала з бронзы — штучны дыямент. Узнагароды раздавалі цягам трох гадзін: асноўныя прызы атрымалі нацыянальныя тэлеканалы.

Раскрываць канверты і аб'яўляць пераможцаў даверылі лепшым спартсменам Беларусі: Надзеі Скардзіна, Яніне Карольчык, Марыне Лобач, Наталлі Цылінскай, Сяргею Мартынаву. Вышэйшую ўзнагароду ўручала трохразовая алімпійская чэмпіёнка, Герой Беларусі Дар'я Домрачава. Гран-пры «Тэлевяршыні-2014» падзялілі праекты «Miss Supranational-2013. Фінал» (АНТ) і «Спеўныя гарады» (СТВ).

Нацыянальны тэлевізійны конкурс «Тэлевяршыня» заснаваны Міністэрствам інфармацыі, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй, ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал» і ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне».

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Калмыцкая паэма пра Хатынь

**У сталіцы Калмыкіі, Элісце, прайшоў гарадскі конкурс юных чытальнікаў вершаў аднаго паэта. Дзеці розных нацыянальнасцей дэкламавалі радкі пра родны край, пра Вялікую Айчынную вайну, беларускіх партызан, дружбу паміж народамі.**

Аўтар своеасаблівай паэтычнай анталогіі — вядомы калмыцкі паэт і празаік Міхаіл Хонінаў. Частка яго жыццёвай і творчай біяграфіі звязана з Беларуссю — на Магілёўшчыне і Міншчыне ён партызаніў. Акупанты абяцалі за галаву адважнага разведчыка і партызанскага камандзіра па мянушцы Міша Чорны дзясяткі тысяч нямецкіх марак!

У пасляваенныя гады Міхаіл Хонінаў часта прыязджаў у Беларусь. Сустракаўся з баявымі таварышамі. Пасябраваў з многімі беларускімі пісьменнікамі. Ліставаўся з Васілём Быкавым, Аляксеем Пысіным, Максімам Танкам, Петрусём Броўкам. У Мінску выйшлі два паэтычныя зборнікі калмыцкага літаратара. А ў Элісце ў яго перакладах пабачыла свет кніга вершаў Янкі Купалы.

Школьнікі на калмыцкай і рускай мовах чыталі вершы «На Беларусі многа вёсак…», «Біяграфія» і другія творы, якія нагадваюць пра гераічнае і драматычнае ваеннае ліхалецце, боль і пакуты мірных жыхароў Беларусі падчас вайны, партызанскіх мсціўцаў, повязь з сінявокім краем сыноў і дачок іншых народаў.

— А яшчэ на конкурсе як выключэнне адна школьніца прачытала на калмыцкай мове апавяданне майго бацькі пра хлопчыка-беларуса, які стаў сынам партызанскага атрада, — «На рацэ Ухлясці», — расказвае дачка Міхаіла Хонінава — вядомая ў Калмыкіі паэтэса, перакладчыца, літаратуразнаўца Рыма Ханінава. — І гэты, і другія творы, на мой погляд, не страцілі актуальнасці і сёння. Была б вельмі рада, калі б да нашага творчага, адукацыйнага праекта спрычыніліся і школьнікі з Беларусі. Вельмі спадзяюся на гэта. І хачу падзякаваць беларусам, якія памятаюць майго бацьку. Дарэчы, шмат творчых сіл, жыццёвых перажыванняў Міхаіл Хонінаў аддаў важнай для яго паэме пра Хатынь. Калмыкі і сёння часта адкрываюць трагічныя старонкі нашай гісторыі менавіта па гэтым наўздзіў эмацыянальным паэтычным аповедзе.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Звязаныя словам

Фота Кастуся Дробава



*Слова бярэ Мурад Язбердзіеў.*

Міжнародная навуковая канферэнцыя «Махтумкулі Фрагі — Вялікі мысляр» прайшла ў мінскім Доме літаратара.

«Літаратура зноў звязала нашы народы», — падкрэсліў яе ўдзельнікі: прадстаўнікі пасольстваў, перакладчыкі, літаратуразнаўцы. Падчас канферэнцыі быў прэзентаваны зборнік выбраных перакладаў паэта на беларускую мову «З кубка вечнасці мёд», які выйшаў днямі. Госці імпрэзы высока ацанілі ўклад Махтумкулі ў развіццё культуры краіны. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Туркменістана ў Рэспубліцы Беларусь Мурад Язбердзіеў адзначыў, што туркменскі класік перакладзены ўжо больш як на 20 моў свету, што сведчыць пра далучанасць творцы да сусветнага літаратурнага працэсу. Пераканаўчы літаратуразнаўчы агляд зборніка зрабіў доктар філалагічных навук прафесар Іван Саверчанка, узялі слова перакладчыкі творчасці Махтумкулі на беларускую мову — Мікола Мятліцкі, Казімір Камейша і Віктар Шніп. Ганаровая госця канферэнцыі — лаўрэат прэміі імя Махтумкулі, народная паэтэса Туркменістана Амангазэль Шагулыева — прачытала вершы, прысвечаныя любімаму паэту, на сваёй роднай мове. Як падсумаваў адказны за выданне пісьменнік Ганад Чарказян, «адзін чалавек не змог бы справіцца з такой працай», але тых, хто далучыўся да творчасці славутага туркменскага аўтара, было вельмі шмат — няздзіўна, што выданне атрымалася грунтоўным і цікавым для ўсіх аматараў сапраўднай паэзіі.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

*Конкурсы*

# Прадпрымальнікі — за паэзію!

Рэспубліканскі літаратурны конкурс імя Максіма Багдановіча адметны тым, што ініцыятыва яго правядзення належала не толькі Саюзу пісьменнікаў Беларусі, але і Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва.

Паводле дырэктара канфедэрацыі Сяргея Лысенкі, ён асабіста атрымліваў усе работы, якія прыходзілі на конкурс (іх было больш як сорак), і добрае ўражанне пакінулі творы не толькі пераможцаў.

С. Лысенка падзякаваў канкурсантам за актыўнасць ды мэтанакіраванасць і адзначыў, што літаратурная творчасць — добры ўклад у іх уласны капітал: «Капіталізуйце і далей свой патэнцыял!» Першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў звярнуў увагу на значнасць творча-дзелавых стасункаў, сумеснай працы беларускага бізнесу і творчай інтэлігенцыі, выказаў спадзяванне, што плённае супрацоўніцтва будзе працягвацца.

Героямі ўзнагароджання, якое адбылося 16 красавіка, былі не толькі сямёра пераможцаў, але і сам... Максім Багдановіч, у гонар якога праводзіўся конкурс! Уладзімір Навумовіч расказваў пра паэта і чытаў яго вершы — сустрэча ў Доме літаратара распачалася знакамітым верлібрам «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…» Міхась Пазнякоў згадаў той час, калі давялося быць першым дырэктарам музея Багдановіча: «Я выйшаў ад міністра культуры і спыніўся: ні грошай, ні будынка, ні штату, а трэба стварыць музей! Але гэта было


Фота Кастуся Дробава

*Генадзь Пашкоў узнагароджвае лаўрэата конкурсу Надзею Лапінскую.*

шчасце адкрываць, вандраваць дарогамі Багдановіча, знаходзіць яго рэчы…»

У конкурсе ўдзельнічалі не толькі жыхары Мінска, але і творцы з розных куткоў Беларусі. Ладзіліся і паэтычныя турнэ, сярод якіх самым запамінальным быў фестываль у Маладзечне. Лаўрэатамі конкурсу ў намінацыі «Паэзія» сталі Надзея Ніжнёва-Ксенафонтава, Маргарыта Латышкевіч і Алёна Папко, у намінацыі «Проза» — Віктар Сафронаў, Дар'я Лёсава і Марына Яўсейчык (адпаведна першае, другое і трэцяе месцы). Дыплом I ступені ў намінацыі «Драматургія» атрымала Надзея Лапінская. Творы канкурсантаў неаднойчы з'яўляліся на старонках рэспубліканскага друку. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся магчымасці выдання новых твораў пераможцаў. Генадзь Пашкоў падкрэсліў, што маладыя аўтары не застануцца па-за ўвагай Саюза пісьменнікаў. У. Навумовіч быў прыкметна ўражаны шырынёй, глыбінёй і сістэмнасцю мыслення бізнесменаў — але гэтыя рысы неабходныя і кожнаму добраму аўтару. Зычым маладым пісьменнікам таксама смеласці і прадпрымальнасці! А іншых цёплых пажаданняў (як і ўзаемных падзяк) падчас урачыстасці прагучала нямала.

**Янка НАТАВЕЦ**

*Юбілеі*

# Роднай мове аддадзены

Прафесар Аляксей Пятровіч Груца днямі адзначае свой 90-гадовы юбілей. Яго радзіма — вёска Пішчыкі Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. У 1951 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школах Мінска. З 1957 года — навуковы супрацоўнік сектараў лексікалогіі і лексікаграфіі, дыялекталогіі, гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі.

У 1969 годзе А. Груца перайшоў у Мінскі педінстытут. Працаваў на кафедры гісторыі рускай мовы, з 1972 года — загадчык кафедры рускай мовы, з 1982-га — прафесар (у 1990 — 1991 гадах — загадчык кафедры агульнага і рускага мовазнаўства гэтай установы).

Аляксей Пятровіч даследаваў дыялекталогію беларускай мовы, гістарычную граматыку і лексікалогію рускай і беларускай моў, лексіку Якуба Коласа, старaславянскую мову. Ён аўтар шматлікіх артыкулаў па гісторыі складаных форм будучага часу дзеясловаў, пра развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове. У манаграфіі «Развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове» (1970) на матэрыяле помнікаў пісьменства XIV — XVIII ст., фальклорных твораў і народных гаворак даследчык глыбока прааналізаваў фарміраванне і развіццё ў беларускай мове складаназалежных сказаў з рознымі дадзенымі часткамі. Асаблівая ўвага ў манаграфіі звернута на сродкі сувязі даданых частак з галоўнай.

Гэта манаграфія стала базай для доктарскай дысертацыі Аляксея Пятровіча, якую ён абараніў у 1969 годзе. У 1971-м атрымаў вучонае званне прафесара.

А. Груца — адзін са складальнікаў акадэмічных «Беларуска-рускага слоўніка» (1962), суаўтар акадэмічных прац «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968 — 1969). Аляксей Пятровіч таксама актыўна працаваў над укладаннем акадэмічнага «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (вып. 1 — 3, 7 — 9, 12 — 17, 19 — 21). Ён з'яўляецца суаўтарам «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» у 5 тамах (1994 — 1998). У 2000 годзе апошняя праца адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

У розных айчынных і замежных выданнях прафесарам А. Груцам апублікавана каля 80 навуковых артыкулаў па гісторыі аднакаранёвых слоў у беларускай, рускай і часткова ўкраінскай і польскай мовах.

Акрамя параўнальна-супастаўляльнага вывучэння блізкароднасных рускай і беларускай моў на ўзроўні марфалогіі, сінтаксісу, лексікі і фразеалогіі Аляксей Пятровіч займаецца падрыхтоўкай падручнікаў для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. Так, ён выдаў падручнікі «Старославянский язык» (Мінск, 2004) і «Старославянский язык: Практический курс» (Мінск, 2005) ды падрыхтаваў «Сборник заданий и упражнений по старославянскому языку».

Выкладчыцкай і навукова-даследчай дзейнасці ў галіне мовазнаўства Аляксей Пятровіч прысвяціў амаль 60 гадоў жыцця. Ім апублікавана каля 200 навуковых прац памерам прыблізна 200 друкаваных аркушаў.

Як суаўтару акадэмічных прац «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968 — 1969) разам з іншымі даследчыкамі А. Груцу ў 1971 годзе прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Супрацоўнікі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, калегі-вучоныя, студэнты і настаўнікі многіх пакаленняў віншуюць шаноўнага Аляксея Пятровіча з 90-гадовым юбілеем і жадаюць яму моцнага здароўя, здзяйснення ўсіх планаў і задум.

**Мікалай КРЫЎКО**

# Фестываль выбірае маладых

Фестываль маладой паэзіі, арганізаваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, гэтым разам «завітаў» у літаратурную студыю «Малінаўскія галасы», якая працуе пры дзіцячай бібліятэцы № 15.

Адкрываючы мерапрыемства, загадчыца кніжніцы Ірына Дзевалтоўская зазначыла: сёння паэзія маладых гучыць для маладых, таму што па ўзросце, светаўспрыманні, стаўленні да жыцця творцы і слухачы вельмі блізкія. Паміж удзельнікамі фестывалю і слухачамі — вучнямі старэйшых класаў сярэдняй школы № 206 г. Мінска — склаліся цёплыя, даверлівыя адносіны. Свае творы чыталі Людміла Клачко, Кацярына Масэ, Таццяна Грыдзюшка, Кацярына Роўда.

Вядучая імпрэзы, супрацоўніца Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэтэса Іна Фралова ў межах фэсту прапанавала правесці конкурс і вызначыць, па меркаваннях слухачоў, самага таленавітага паэта. На роўных у творчым спаборніцтве бралі ўдзел і члены СПБ, і аўтары, якія робяць першыя крокі па паэтычнай ніве. У выніку слухачы выбралі пераможцай дыпламантку конкурсу «Славянскі калейдаскоп» (дарэчы, ён праводзіўся па ініцыятыве МГА СПБ), студэнтку 2-га курса Белдзяржуніверсітэта Таццяну Грыдзюшка.

Па традыцыі памятнымі падарункамі былі адзначаны не толькі выступоўцы, але і слухачы, якія за лепшыя адказы на пытанне «Што значыць у вашым жыцці паэзія?» атрымалі кнігі з серыі «Мінскія маладыя галасы».

**Ганна СТАРАДУБ**

# След Чарнобыля

У сталічнай бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча напярэдадні чарговай гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС ёсць ужо традыцыя праводзіць са сваімі чытачамі гадзіну смутку. Не здрадзілі ёй і сёлета.

Увазе вучняў гімназіі № 36 была прадстаўлена літаратурна-музычная кампазіцыя «След гарачага ветру», падчас якой яе аўтары і цудоўныя выканаўцы — загадчыца бібліятэкі Наталля Стрыгельская і вядучы бібліятэкар Валянціна Коршыкава — распавялі пра страшную трагедыю XX стагоддзя, якая напаткала Беларусь, і яе наступствы для сённяшніх і будучых пакаленняў.

Свой эмацыянальны аповед яны арганічна ілюстравалі вершамі Рыгора Барадуліна, Раісы Баравіковай, Генадзя Бураўкіна, Міхася Башлакова, урыўкамі з кнігі Святланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва», якія вучні маглі ўспрымаць не толькі на слых, а і паўтараць услед, чытаючы іх на вялікім дэманстрацыйным экране. З увагай слухалі яны таксама і вершы Анатоля Зэкава ў выкананні самога аўтара.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

# Сябры ў доме Коласа

Днямі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася вечарына паэтэсы Аліны Легастаевай. Прайшла яна ў межах праекта «Творчае сяброўства». У госці да творцы завіталі кампазітар, сакратар Саюза кампазітараў Беларусі Аліна Безенсон, кампазітар, кіраўнік музычнага гурта «Элегія» Таццяна Захарыч, паэтэса Галіна Каржанеўская, спявачка Таццяна Арлоўская.

На вершы А. Легастаевай пішуць музыку вядомыя кампазітары, яе песні спяваюць заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Уладзімір Правалінскі, Надзея Мікуліч, ансамбль «Бяседа».

Падчас вечарыны прагучалі канцэрт для домры з аркестрам «Прозрение» ў выкананні А. Безенсон, песні ад Таццяны Захарыч, а таксама цёплыя словы сяброў па Саюзе пісьменнікаў Беларусі Дзмітрыя Дземідовіча, Галіны Каржанеўскай, спявачкі Таццяны Арлоўскай. Мікола Шабовіч прачытаў пераклады яе вершаў з рускай мовы на беларускую.

**Вольга ГЛУШЧАНОК**

# Творчы дыялог

У офісе міжнароднай грамадскай арганізацыі «Дыялог Еўразія» прайшло чарговае пасяджэнне творчага клуба «Дыялог сяброў», які быў заснаваны сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел пісьменнікі сталіцы, супрацоўнікі і госці арганізацыі. Гэтым разам прысутныя пазнаёміліся з творчасцю Ірыны Тулупавай, якая чытала вершы і адказвала на пытанні.

Прагучалі народныя і сучасныя турэцкія песні ў выкананні пераможцы алімпіяды па турэцкай мове Алы Султановіч.

Фотамастак Яўген Пясецкі пазнаёміў прысутных са сваімі выдатнымі работамі, зробленымі падчас незабыўных вандровак па Беларусі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Генадзь АЎЛАСЕНКА



## Вецер

*Кажуць, вецер —*
*проста рух паветра…*
*Толькі цяжка*
*ў гэта мне паверыць!*
*Вецер… ён асобны,*
*ён — жывы…*

*Ды хіба ж не назіралі вы,*
*Як ён дрэўцы сонныя люляе,*
*Як ён спрытна з хвалямі гуляе*
*На паверхні ранішняй ракі…*
*Як сплятае з жытам васількі…*

*Ён такі!*

*Часам ён бязлітасным бывае:*
*Дрэвы з каранямі вырывае,*
*Шлях нам засцілае перунамі,*
*Выклікае грознае цунамі,*
*Смерчамі віхурыць наўздагон…*

*Розны ён…*

## Успамін

*Бяжыць у лес сцяжынка палявая,*
*Я па сцяжынцы з кошыкам іду.*
*А дожджык зверху поле залівае,*
*А поле з асалодай п'е ваду.*

*Ну хто імгненне тое захавае?*
*Цяпер яго я толькі бачу ў сне:*
*Як бегла ў лес сцяжынка палявая,*
*Як цёплы дождж палівае мяне…*

*І ўсё ж, калі прачнуся, —*
*адчуваю:*
*Той даўні дзень не знікне абы-дзе…*
*Не зарасце сцяжынка палявая,*
*Пакуль па ёй мой успамін ідзе…*

## З набалелага…

*Па начах,*
*нібы хвалі па цёмнай вадзе,*
*Прабягае па сэрцы туга…*
*Ёсць ланцуг*
*Між мінулым і тым, што ідзе…*
*Мы — як звёны таго ланцуга!*

*Ды іржой*
*пакрываецца вечны ланцуг,*
*Звону звёнаў даўно не чуваць!*
*У квітнеючы луг*
*угрызаецца плуг…*
*Што ж аб кветках цяпер*
*шкадаваць?*
*Ёсць ланцуг*
*між мінулым і тым, што ідзе…*
*Мы — як звёны таго ланцуга!*
*Мо таму,*
*нібы хвалі па цёмнай вадзе,*
*Прабягае па сэрцы туга…*

*Як жа ўбачыць*
*Пад хвалямі чыстае дно,*
*А пад восень —*
*квітнеючы сад?*
*Мы як птушкі,*
*што ў выраі зляцелі даўно,*
*Ды згубілі*
*дарогу назад…*



Фота Кастуся Дробава

Сяргей МАХНАЧ



## Па-за гульнёй

*Я страціў смак,*
*я страціў сэнс жыцця,*
*І больш мяне нічога не хвалюе.*
*Цяпер вясновы дождж цябе цалуе,*
*А я ніяк не выйду з забыцця.*

*Забыліся і словы, што казаў,*
*Калі цябе сустрэў неспадзявана.*
*Забыўся, як кахаў усхвалявана.*
*Цяпер маё становішча «па-за».*

*Па-за тваім жыццём, па-за гульнёй,*
*Па-за мяжой, што ўзнікла паміж намі.*
*Па памяці маёй прайшло цунамі.*
*Не памятаю болей вобраз твой.*

*Ад слёз не дапаможа парасон.*
*Цябе цалуе дождж. Не я. І кропка.*
*Я горыч крыўды праглыну таропка —*
*Хутчэй забуду ўсё, бы кепскі сон.*

## Ты чакай, я іду да цябе

*Мы сустрэліся невыпадкова —*
*Нібы з возерам звонкі ручай.*
*Дастаткова адзінага слова,*
*Каб прыйшло пачуццё праз адчай.*

*Дастаткова адзінага жэста,*
*Каб навечна згубіць галаву.*
*Я пабачыў тады не нявесту,*
*А святло, да якога плыву.*

*Мы сустрэліся, разам зліліся,*
*Кожны момант хвалюючы быў.*
*Нёс цябе я скрозь зорныя высі,*
*І трымаў, і жадаў, і любіў.*

*Ты кахала мяне так бясконца,*
*Як я нават не мог уявіць...*
*О, багіня, о, яснае сонца!*
*Без цябе маё сэрца баліць.*

*Без цябе звар'яцеў, страціў мову*
*І штодзённа блукаю ў журбе.*
*Мы сустрэліся невыпадкова…*
*Ты чакай, я іду да цябе.*

## Сябрам

*Мае сябры!*
*Са святам вас, мае сябры!*
*Хай згіне ўсё,*
*што вас турбуе, да пары.*
*Няхай гараць*
*вачэй агеньчыкі ўнутры*
*бясконца.*
*Давайце жыць,*
*садзіць сады,*
*кахаць жанчын,*
*няхай гады*
*не засмучаюць вас нічым.*
*Любіць жыццё*
*давайце проста — без прычын,*
*як сонца.*

*Мае сябры!*
*Жывіце, каб рабіць дабро,*
*каб сорам вас*
*не біў пад левае рабро.*
*Я вам пішу,*
*дрыжыць мой голас, а пяро*
*блукае.*
*Душа плыве*
*па хвалях часу дзень за днём.*
*Мае сябры,*
*я расчыніў дзвярны праём —*
*прыходзьце ўсе.*
*Мы нешта знойдзем і нальём*
*да краю.*

Наталля АЛЕЙНІКАВА



* * *

**…І сціплую душу трывожыць,**
**штось дзёрне ў ёй…**
**сляза бяжыць,**
**бяжыць…**

*Дзень*
*адгукнуўся*
*адзінотай.*
*Адзінока.*
*Узнёсся ў неба журавель высока,*
*ляціць адзін…*
*…гукае жураўліны клін.*
*Крычыць…*
*І рэха покліч множыць,*
*Палессе сіратлівае*
*трывожыць...*

*«Чарнобыль».*
*Гола ў хатах стала,*
*ужо не соляць людзі сала,*
*не топяць грубкі,*
*на зіму*
*грыбы не сушаць.*
*Хоць крычы…*
*Цяпер…*
*Гуляе ветраззь дзікі ў полі,*
*шукае штось у гэтай долі.*
*А што тут знойдзеш?..*
*Хоць крычы.*
*Ды дзе там…*
*Цішыня ў начы.*
*І шэры журавель рыпіць.*
*Доля такая.*
*Што рабіць…*

* * *

*Паветра*
*стогны восені*
*пачуе…*
*На полі зжатым*
*жорсткая*
*салома.*
*Як «перакаці поле»,*
*лёс вандруе.*
*Куды ляцім?*
*Нічога ж*
*невядома.*

*Заквокча птушка*
*недзе на балотах.*
*Праз беразняк,*
*з тарфянікаў іду.*
*Аж шчокі чырванеюць,*
*душа ў ботах,*
*спынюся*
*перавесці дух.*

*Радзіма — маці…*
*Вёска*
*Даўгалессе, —*
*каб не «чарнобыль»,*
*лепшы*
*ў свеце*
*край!*
*Табе паклон*
*мой,*
*р-о-о-о-днае*
*Палессе…*
*У адказ*
*рыпіць*
*асірацелы*
*гай.*

* * *

*Усё роўна прыеду да роднага Краю,*
*пра сваё нагадаю над ціхай Брагінкі,*
*і па вулачках ціхіх сям-там пагуляю,*
*адпачну каля яблынькі; спеюць пуцінкі,*

*…яблыкі спеюць, а можна іх будзе есці?*
*Колькі год, як ЧАЭС незнарок узарваўся,*
*і не трэба было б у той час ужо лезці,*
*бо мінула. І дробненькі дождж пачаўся.*

*Адпачнула, і неяк зрабілася лёгка,*
*бы не трыццаць чатыры,*
*а толькі за восем...*
*Было восем тады…*
*Красавіцкая спёка.*
*Толькі Бога аб лепшае долі мы просім.*

# Алег САЛТУК

## *Два апавяданні*



## Элегія

Каханне напаткала яе нечакана, як гром з яснага неба, і абрынулася неймавернай пяшчотай залатога і блакітнага святла. А сустрэліся яны калісь на адной літаратурнай сходцы. Бялявая, з валошкавымі вачыма, сімпатычнымі ямачкамі на далікатным твары, зграбная з ног да галавы, маладая жанчына ўсхвалявана чытала перад незнаёмымі людзьмі свае першыя вершы, але, дэкламуючы іх, яна чамусьці глядзела не ў залу, а на яго.

І не думаў не гадаў ён, што ўжо вельмі хутка, літаральна пасля наступнага пасяджэння літаратурнага гуртка, стане ў адносінах да пачаткоўкі не столькі кіраўніком, колькі выканаўцам усяго таго, што запатрабуе ад яго гэтая на першы погляд самадастатковая прыгажуня, а на самай справе натура вельмі ранімая, чуйная і глыбокая, і што менавіта ёй адной Ігар будзе доўга-доўга прысвячаць свае вершы…

І вось перад Наташай тыя крыху пабляклыя і ўзлахмачаныя па краях лісты, такія дарагія і родныя ёй, як і тады, калі яна ўзяла дрыготкімі ад хвалявання рукамі першы з іх. Успаміны пакаціліся цёплымі, сонечнымі хвалямі, амаль такімі, якія набягалі на азёрны бераг, дзе некалі зліўся пошум дрэў, цені ад аблачынак і іхнія целы.

Які з гэтых вершаў Наташа прачытала першым? А, глупства, усе яны належаць толькі ёй, бо пісаліся толькі для яе і нават праз гады грэюць сваім шчодрым цяплом.

«Нібы ў вір галавой, у блакіт я ныруў тваіх воч дарагіх назаўсёды, каб адчуць маладую вясну, адшукаць там спагаду і згоду. Толькі б мне цалаваць без канца гэту сінь і да тонкай рукі дакранацца. Я прашу: не адрынь, не пакінь, дай табою налюбавацца. Кім я быў, чым я жыў, не скажу, прашапчу толькі ціха і ўпотай, што жыццём табе дакажу і любоў сваю, і пяшчоту».

Яна чытала гэтыя словы зноў і зноў, хоць ведала напісанае на памяць. Яно стала часткай яе самой, якую ён так горача і прагна абдымаў і цалаваў у тыя незабыўныя хвіліны, гадзіны, дні, месяцы. Куды, на якіх крылах паляцелі яны? Напэўна, на тых балючых ад расстання і жадання хутчэй вярнуцца, як у позняга, развітальнага выраю жураваў.

Яны, здаецца, не сварыліся, хоць сутычкі былі, была нейкая падсвядомая рэўнасць ці шкадаванне, што ўсё не так, як трэба, што яны ніяк не збяруцца юрыдычна аформіць свае адносіны. Што такое «так», яны і самі добра не ведалі і мілаваліся. Праўда, усё часцей пасля жарсці адчувалася нешта накшталт абыякавасці.

І тады Наташы думалася, што ўсё гэта хутка скончыцца, бо ён больш не кахае яе. Да таго ж часта сустракаецца са сваім сынам, а яе дачкі нібыта пазбягае. А калі бачыцца заадно і з былой жонкай?.. Амаль так, толькі ўжо са сваёй званіцы, разважаў Ігар: «Мяне задушыць яе рэўнасць. Пры чым тут дзеці? Яе падазронасць пераходзіць усялякія межы. Ці змагу я ператрываць, перацярпець?»

…Хмельныя гукі далёкага кахання працягвалі гучаць і напаўнядзь сабой усё наўкола і яе, такую бяздольную, пакрыўджаную, адзінокую...

«Маленькі крыжык ты мне падарыла, асвечаны і небам, і табой. І срэбнае распяцце засвяціла святлом гаючым у душы маёй. Параненая зайздрасцю і злосцю, яна ўваскрэсла, зноўку аджыла, і мне тады адразу падалося, што ты са мной усё жыццё была. І толькі я, аслеплены другімі і сам сабой, не заўважаў цябе… Свяціся ты, свяціся тваё імя і ў радасці, і нават у жальбе».

Павольна ліліся радкі, мелодыя якіх вяртала ранейшыя адчуванні і думкі: «Што ён знайшоў ува мне? Чаму гэтаму патрэбна было здарыцца тады, калі ў нас былі ўжо дзеці? Ды і розныя мы, па вялікім рахунку: звычкі, характары, погляды. Але ж сэрцу не загадаеш».

Ведала, прадчувала, што так ці прыкладна так, як яна, думае і Ігар. Ды арэлі кахання пакуль што не хацелі губляць сваёй блакітнай вышыні. Ці, можа, ляцелі па інерцыі?

«Ты, напэўна, наіўна-святая, калі раптам абрала мяне, а ўжо свечка мая дагарае, і святла не хапае ў акне. Мне і радасна, і трывожна бачыць бездань любімых вачэй. Асцярожна, прашу, асцярожна — вельмі тонка ўсё гэта яшчэ. Абнадзеіш, акрыліш, узвысіш, азірнешся і скажаш: не той. Можа, лепш ад мяне адкасніся, адмахніся прыгожай рукой…»

Не, яна пры першым спатканні не адштурхнула яго, а пажадліва-шчыра прыціснулася ўсім сваім гарачым целам да мужчынскіх грудзей, аддаючыся яму пачынаючы ад хвалістага шоўку валасоў да пазногцяў і забіраючы яго ўсяго без астатку. Ён прызнаваўся ёй у сваіх пачуццях, а яна, здавалася, не толькі слухала прачулыя словы, а ўдыхала іх і пакідала ў душы з надзеяй, што яны абавязкова прыжывуцца там і застануцца назаўсёды.

Ва ўсім без выключэння, і ў пачуццях у тым ліку, ёсць пачатак і канец. Хто пачаў першым, сказаць цяпер цяжка, амаль немагчыма. Рассталіся яны без слёз, ахаў і вохаў у адзін цудоўны вясновы дзень. Адбылося гэта на трэцім годзе іхняга кахання, трэцяга дня трэцяга месяца.

Наташа, заміраючы, асцярожна склала адзін да аднаго ўсе аркушыкі, паглядзела ў акно і ўбачыла некалькі маленькіх сінічак на пругкай галінцы бэзу і яшчэ адну, большую, зводдаль на пунсова-крывавай ад першага марозу гронцы каліны. Смутак адпусціў, і падумалася ёй, што і ў гэтай адзінокай птушкі, і ў яе самой яшчэ абавязкова з'явіцца нехта іншы, жаданы, разумны, улюбёны. Але такіх, як Ігар, ужо не будзе ніколі…

Пра што думаў у гэтыя хвіліны ён, жанчына не ведала.

## Саня

Начныя тэлефонныя званкі заўсёды трывожныя. Гэты прагучаў недзе а палове дванаццатай і голасам вясковай суседкі паведаміў, што памёр Саня, а хаўтуры, як заведзена, адбудуцца заўтра папоўдні…

На развітанне са сваім блізкім земляком і, можна сказаць, таварышам Косця Залескі не паспяваў аніякім чынам, на клады патрапіў у наступны прыезд і цяпер стаяў ля свежага курганка, слухаючы сцішана-журботны пошум дрэў і думаючы свае таксама невясёлыя думкі.

А клады жылі адным ім вядомым жыццём. Толькі сёння яны былі не такімі, як паўвека таму, калі амаль на ўсіх магілах стаялі зымшэлыя драўляныя крыжы і рэдка дзе — металёвыя.

Тым часам паціху расхмарылася. Адразу стала святлей ці гэта яму толькі падалося? Не, сапраўды, павесялела ад мармуровых і гранітных надмагілляў, фотаздымкаў на іх і пафарбаваных у розныя яркія колеры зварных і нават каваных агароджаў. Вечнасць вечнасцю, а час часам: ён дыктуе сваё. І ўсё яму падуладна, апрача душы. Але ж і яна мяняецца, толькі вось, на вялікі жаль, не ў лепшы бок. Яе ў апошні час, без нашага ведама і на нашых вачах, усімі сіламі і сродкамі выбівае амаль распранутая гламурная эстрада, яе цынічны рогат, папсовая літаратура, глянцавыя часопісы і газеты — сумессю рэкламна-забаўляльнага фальшу, пошласці і подласці, выклікаючы ў гэтай самай душы крыўду і агіду. І як выжыць ёй, калі яна яшчэ ў некага і засталася ва ўсім гэтым садамізме, невядома…

Ад крыху нечаканага для такога месца настрою Косцю і самому стала ніякавата. А тут яшчэ невялічкая шэранькая птушка пырхнула на бярозавую галінку і, здалося, не заспявала, а загаласіла. «Можа, сапраўды, нечыя душа прыляцела ў адведкі? Вось табе і на: толькі падумалася… Ёсць яна, ёсць. Толькі як быць сёння з ёй, аблытанай непатрэбшчынай, захутанай у дарагія транты, перакормленай, перапоенай і не патрэбнай нікому, апрача сябе?..»

Не ведаў усяго гэтага і не мог пражыць без душы і Шыхаў, чалавек неардынарны, няўрымслівы, натура ўзвышаная і паэтычная.

Чаму захацеў паступаць у культпрасветвучылішча, дзе на адным з аддзяленняў рыхтавалі кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, ён нікому не казаў, але паехаў у няблізкі рускі горад, каб здзейсніць сваю мару. Косця памятае, як захоплена і шчыра распавядаў яму, таксама тады студэнту, пра сваю вучобу, педагогаў, паездкі ў маскоўскія тэатры:

— Вось, браток, дзе жыццё. А артысты якія! Мне думалася раней, што такія жывуць недзе недасягальна высока і далёка.

Шыхаву пашанцавала: дзе вучыўся, там і прыгадзіўся, бо застаўся працаваць у горадзе свайго студэнцтва.

Як яно б усё пайшло далей, хто ведае, калі б не дурное каханне, як казалі Саневы бацькі, да адной цудоўна прыгожай цыганкі, у табары якой доўга жыў іх сын і ўжо значна пазней, пачуўшы эфірную цыганскую песню, падпяваў і нават падтанцоўваў ёй, і скупыя мужчынскія слёзы дрыжэлі на яго вейках.

Ах, чавалы-чавалы, дзе вы разам з Косцем тады качавалі? А качавалі і начавалі, і ваша начное сонца, прыволле і разняволенасць, гарачыя рукі і вочы, змяіныя косы і хвалістыя станы вашых дзяўчат і жанчын загубілі не аднаго такога хлопца, пакліваўшы за сабой у мройную далячынь, якой ніколі не было і не будзе ў звычайным жыцці!..

Неўзабаве, ніхто не ведаў чаму, вярнуўся Саня дамоў і ўладкаваўся ў салідны гарадскі Палац культуры.

Працаваў спраўна, бо занятак як-ніяк быў звязаны ўсё з той жа мастацкай самадзейнасцю. Толькі не хапала хлопцу менавіта тэатральнай сцэны, тачыў чарвячок незадаволенасці сабой і, відаць, не даваў спакою юшліва-юрлівы табар і ўспаміны, звязаныя з ім. А тут патрэбна было, як кажуць, малаціць ад званка да званка, падпарадкоўвацца не вялікаму, але начальству, што яму, бескампраміснаму па натуры, было рабіць вельмі нялёгка. Не шчасціла і ў асабістым жыцці.

А перабудовачная «свістапляска» неслася галопам, і найчасцей па людскіх трупах. Бурліла і ў інтэрнаце, дзе сярод маладога і вясёлага народу жыў Саня. Часцяком па выхадных і святах пад гітарны звон звінелі бакалы з віном і больш моцнымі напоямі.

Не мог Шыхаў са сваім характарам маўчаць. І калі пачаў гаварыць пра тое свайму кіраўніку, то ўзаемапаразуменне не атрымалася: грошы патрэбна зарабляць — такі прыкладна быў рэзон апошняга. Сучасны, п'янкі ад уяўнай свабоды, гэты баль на касцях нікога дужа не цікавіў. Маскультурны дэбілізм набіраў моц. Выветрываўся славянскі дух. На змену яму прыходзіла нейкая астматычная, чужая «дыхалка», нажыва грошай і грошы нажывы руйнавалі нармальныя чалавечыя адносіны паміж людзьмі…

Звольнены Саня новае месца працы асвоіў ужо ў самай глыбінцы, у суседнім з іх вёсачкай сяле — цэнтральнай сядзібе былога савецкага саўгаса-мільянера, дзе яшчэ грымеў тады шыкоўны культурны цэнтр з клубам на дзве залы, пакоямі для заняткаў розных самадзейных гурткоў, музычнай школай, сваёй кінаўстаноўкай, бібліятэкай і чытальняй.

Здавалася б, крыху акрыяў Шыхаў, знайшоўшы сабе патрэбны занятак. Косця добра памятаў, як ягоная і Санева мамы хадзілі ў клуб глядзець на сына і суседа ў якасці артыста ды дзяліліся ўражаннямі ад убачанага:

— Ну і Саня: жывы панок ды і толькі!

— А ты жывога пана хоць бачыла?

— Не, я ж маладзейшая за цябе.

— А я бачыла. Жыў тут адзін непадалёк ад нашага хутара ў фальварку Лёсава. Тапчэўскім зваўся. Ласкавы быў, далікатны, на скрыпачцы ўсё граў і вершыкі казаў па-нашаму. Ды ён і пахаваны недалёка — у Кошчыне…

Калі тое было, а памяць вось засталася. Сёння яна вяла Косцю па сваіх і яго аднавяскоўца сцяжынках, і апошні, нібы жывы, паўставаў перад ім у поўны рост.

Па сваёй натуры Саня быў маўчуном, засяроджаным на нечым сваім, што не мог, а можа, і не хацеў нікому паказваць, толькі неяк аднойчы пажаліўся Косцю:

— Табе лягчэй, у цябе жонка, дзеці, а ў мяне нікога.

— А брат, бацькі, твае аднаклубнікі, нарэшце?

— Ат…

— Ажаніўся б ты, любáя пойдзе.

— Любая, але не любая.

На тым іх размовы і заканчваліся.

А са сваімі бацькамі і меншым братам-прадпрымальнікам ён не тое што варагаваў, аднак і агульнай мовы не знаходзіў. Адчужэнне перарастала калі-нікалі ў сваркі.

Саўгасны культурны цэнтр развальваўся на вачах: на яго ўтрыманне ў безгаловых перабудоўшчыкаў раптам не аказалася ні капейкі. Ды і сам ён стаў незапатрабаваным разгубленаму ўшчэнт люду, які, хто з цікавасцю, а хто з варожасцю, назіраў, як з розных цёмных шчылін і куткоў выплішчваліся на свет боскі розныя дзякі і прахіндзеі, як закруціліся ў д'ябальскім шалёным карагодзе шматлікія махінатары-прадпрымальнікі — так сталі горда называць сябе былыя спекулянты. Адна вушлая «прадпрымальніца» штогод прыязджала ў сваю вёску і выраблялa там з ранняй вясны і да позняй восені з сумнiўнага спірту, кіпячонай вады і яшчэ нечага аптэчнага сланowазабойны самапал. І пацягнуўся па танны і моцны напой падмануты люд. Не заставаўся ўбаку і Шыхаў: едучы на працу і вяртаючыся з яе, не абмінаў ён «п'яную» хату. Ад частых выпівак да душэўнага болю дабаўляўся пакрысе і цялесны.

Хутка прыспела пенсія — гуляй не хачу. І стаў для мужыка дзень ноччу, а ноч — днём. Добра ўзяўшы на грудзі, казаў тады, як плакаў:

— Усё, што рабіў, дзеля чаго хацелася жыць, згарэла ясным полымем. Хто я цяпер? Савок. Паглядзі, Косця, хто сёння раскашуе на шматлікіх чужых тэлеканалах, адкуль там набралася столькі самцоў і самак, розных дэбілаватых смехачоў, якія здзекваюцца з усяго нядаўна яшчэ святога? Дзе рабочы, калгаснік, вучоны, пісьменнік, урач, інжынер? Госпадзі, няўжо такое надоўга? Няўжо няма ў нас прыпевак, песень, казак, паэм, сваёй літаратуры? Ёсць, толькі бяры, карыстайся з толкам. Пакарысталіся: з купалаўскай чыстай «Паўлінкі» зрабілі такую нью-брыдоту!..

Што мог адказаць тады свайму таварышу Косця, калі сам ледзьве выкараскаўся з кашчавых перабудовачных кіпцяў, не страціўшы ўласнага сумлення і чалавечай годнасці, заплаціўшы за тое сваім апошнім здароўем?..

Хавалі Аляксандра Міхайлавіча Шыхава рэдкія аднавяскоўцы, аднаклубнікі і брат. Злыя языкі плявузгалі, што нібыта крыж на магілку паставілі не новы, а «бэўшны», зроблены не ў такія ўжо далёкія па мерках вечнасці савецкія часы.

Хто ведае, так яно было ці не, ды ўжо на свой поўны, пачварны рост уставала дваццаць першае стагоддзе.

# Палымянскі рух, або Наш *Cénacle*

ПОЛЫМЯ

Амаль з самага пачатку маіх чытацка-аглядальніцкіх стасункаў з часопісам «Полымя» ўзнікла пачуццё чагосьці прыемна знаёмага. Неакрэсленае ўражанне раптам «выкрышталізавалася» па прачытанні сакавіцкага нумара: дык гэта ж рыхтык фармат выданняў літаратурных суполак рамантычнага часу! У Францыі пад патранажам В. Гюго выходзіў *Cénacle*, адстойваючы крэатыўныя густы аднадумцаў-сучаснікаў; яшчэ раней у нямецкай Іене браты Шлегелі & C° стварылі знакаміты *Athenium* — «хросная бацькоў» рамантычнага мастацтва, сімвал супольнай еднасці самых розных творчых асоб. Падобны карпаратыўна-свойскі творчы дух пануе ў «Полымі».

Вершы Міколы Мятліцкага — пра час, мінулы і будучы, пра сяброў і настаўнікаў, вершы гаючыя і трывожныя, узнёсла меладычныя і прыземлена адрывістыя — розгалас эпох, асоб, рытмаў і рыфм…

«*Былі*» Міколы Чарняўскага — гэта яго «ўніверсітэты»: вучнёўства ў Артура Вольскага і Янкі Маўра, сяброўства з Рыгорам Барадуліным — неацэнныя сведчанні для будучых біёграфаў і гісторыкаў «палымянскага перыяду» нашай літаратуры. Такое ж самае значэнне будуць мець «Нататкі пра сучасную беларускую паэзію» Уладзіміра Гніламёдава. Заключная частка іх публікацыі прысвечаная ў асноўным філасофскай плыні, якая выразна праcочваецца ў вершах Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Марука, Алеся Разанава, Анатоля Сыса. Аўтар прыводзіць шчодрую падборку афарызмаў першага з гэтай плеяды — Р. Барадуліна: сёння яны чытаюцца як запавет.

Знаёмыя імёны, постаці, трывалыя сувязі — творчыя, вучнёўскія, калегіяльныя, сяброўскія, нават сямейныя. Хтосьці часам кажа: «Міжсабойчык». Дык хіба блага? Дачка піша пра бацькаў твор (доктар філалогіі Таццяна Шамякіна — пра раман класіка «Петраград — Брэст»); акадэмічны літаратуразнаўца Яўген Гарадніцкі аналізуе паэзію Уладзіміра Мазго, — прыклады сувязей не толькі сямейных і калегіяльных, але прынцыпова важкай роўнасці і ўзаемапавагі літаратуры, крытыкі, літаратуразнаўства. Тандэм Таццяны Кабржыцкай і Вячаслава Рагойшы (у нумары апублікаваны нарыс да юбілею Тараса Шаўчэнкі) прыводзіць на памяць сумесныя штудыі Фрыдрыха і Даратэі Шлегель — і гэта цудоўна: ва ўсялякім выпадку, навідавоку прасякнутасць тых штудый цеплынёй чалавечых стасункаў, чалавецкага разумення.

Напэўна, менавіта такім чынам і складваецца, і рухаецца сапраўдны літаратурны працэс.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Цішыня між радкоў

НЁМАН №3 2014

Для літаратурнага часопіса атмасфера з'яўляецца рэччу неадменна важнай. Яна настойваецца вельмі доўга, нават не гадамі, а дзесяцігоддзямі, і залежыць перадусім ад сталых аўтараў і мэты, якую ставіць перад сабою рэдактар (калі ўвогуле ставіць нейкую мэту, акрамя як выдаць чарговы нумар, забыўшы яго хоць якой «прадукцыяй», як казаў Максім Гарэцкі). Менавіта гэтая атмасфера і стварае ўрэшце часопіс.

Гэта ўсё да таго, што сакавіцкі «Нёман» атрымаўся якраз атмасферным. Пачынаючы ад вокладкі — рэпрадукцыі карціны Гаўрыіла Вашчанкі «Беражніца» — таямнічай, цягучай, хараша жудаснай — у тым сэнсе, што яна закранае самае глыбіннае і тым палохае. Яе колеры і настрой гарманічна перацякаюць у твор, якім адкрываецца часопіс, — раман Алега Ждана «Не загіне са мной» («Не погибнет со мной»). Аўтар вымалёўвае Санкт-Пецярбург канца XIX — пачатку XX стагоддзя, з яго гімназіямі, кібіткамі, Неўскім і рэстаранчыкамі, насяляе яго добра знаёмымі нам генераламі, суддзямі, саветнікамі, злодзеямі, і, натуральна, гімназісткамі. Усё гэта немінуча нагадвае прозу таго самага Дастаеўскага. А таксама «гарадскую» прозу Гогаля: падобным манерам Алег Ждан выхоплівае трапныя дэталі, апісваючы персанажаў, іранізуе, пакепліва з іх. Гогалеўская ў рамана і інтанацыя — урывістая, трапная, хлёсткая. Яна ўвесь час трымае чытача, не дае засумаваць. Яна, а таксама стылізаванасць самое мовы твора. Яшчэ да таго, як апавядальнік, чыімі вачыма мы сочым за развіццём падзей, паведаміць нам пра час, дзе мы апынуліся, мы самі ўжо можам сарыентавацца. Раман «Не загіне са мной» — гэта добрая, вытрыманая проза, якую прыемна чытаць, аднак узнікае пытанне: дзеля чаго Алег Ждан звяртаецца ў свет Дастаеўскага і Гогаля? Магчыма, ён папросту яму блізкі, і аўтар даўно марыў не толькі за ім сачыць, але і перастварыць яго? Гэта самае верагоднае тлумачэнне, бо для беларускага чытача названыя рэаліі не такія ўжо і рэаліі, а расійскі пра гэта чытаў, і не раз — дзякуючы ўласным пісьменнікам.

Той жа настрой падтрымліваецца ў вершаванай нізцы Міколы Мятліцкага — ціхі сум, замілаванасць былым, хоць і датычна іншага — *свайго*, роднага. Але і тут не абышлося без парадоксу: у перакладзе Лізаветы Палеес вершы Міколы Мятліцкага, беларускія ўва ўсіх сэнсах, неяк губляюць гэтую прыналежнасць і становяцца проста рускамоўнай лірыкай. Можна ўзяць любую страфу, не выбіраючы адмыслова, напрыклад, гэтую:

*Мой светлый сон:*
*Я вновь в дали такой,*
*Где ты сияешь юной красотою,*
*Где, нежностью окутанный ночною,*
*Твоей щеки касаюсь я рукой,*
*Где только нам*
*принадлежит весь мир,*
*Где нашим счастьем*
*полнится эфир.*

Хто гэта напісаў? Расійскі паэт-рамантык XIX стагоддзя? Ці Мікола Мятліцкі, сучасны беларускі паэт? Няма чаго і казаць: пераклады — штука падступная.

Задуменнасць і прасветленая самота працягваюць весці рэй. Алена Кошкіна прадстаўляе чытацкай увазе шэраг навел з адной галоўнай гераіняй Аняй, якая разважае над побытавымі і не дужа рэчамі.

Надзвычай яркая, «дыхзаймальная» падборка вершаў у Георгія Кісялёва. Гэта нават не падборка, а два вершы; першы — поўны снегу, марозу і пасвісту ветру, ён паэтычна пагрывае экзатычнымі для беларусаў слоўцамі — «хайлем», «каюр», «остол», «элоэл»; другі — сцішаны, але гэта падманлівая цішыня трагедыі (паэт выпісвае апошнюю размову сына з бацькам). Назваўшы гэтыя вершы паэзіяй, несправядліва было б абысці радкі, якія выклікаюць сумненні, а менавіта: «Кидай меня, тундра, словно медведь // В загривке ярого пса, // Чтоб оставалось лишь стервенеть, // *Впиваясь в его мяса!*» Экспрэсія, якая вылучае верш Георгія Кісялёва з усіх тэкстаў нумара, захоўваецца, але парушаецца тая мяжа паміж нечакана-грубаватым і тым прыгожым — і эстэтычным. Мяжа гэтая вельмі тонкая, і калі паэту ўдаецца балансаваць на ёй, дасягаецца надзвычай уражлівы эфект, што мы і маем. І нядзіўна, што часам паэт можа крыху аступіцца.

І, канечне ж, заўжды цікава чытаць дзённікі, тым больш — пісьменніцкія. У «Нёмане» гэтым разам змешчаны «Ваенныя дзённікі» Вісарыёна Гарбука. Яны, як ні дзіўна, не парушаюць той атмасфернай зацішанасці, якая адзначалася напачатку. Мала таго, што пісьменнік у дзённікавых запісах часта звяртаецца да ўспамінаў, дык яшчэ і чытач узводзіць іх у квадрат, — бо і сам дзённік цяпер — адзін вялікі ўспамін.

Пасля прачытання сакавіцкага нумара «Нёмана» толькі і застаецца, што паехаць на вялікую раку — пасумаваць, падумаць, памаўчаць.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Піца з паэзіяй

Маладосць

Новы нумар «Маладосці» пачынаецца пазітыўна. Галоўнымі героямі некалькіх інтэрв'ю з'яўляюцца актыўныя, мэтанакіраваныя, крэатыўныя людзі, якія распавядаюць пра надзвычай разнастайны беларускі свет. Чарговыя старонкі «Жыровіцкага дыярыуша» прысвечаны Вільні і дзяцінству айца Яўстафія. Ясныя і светлыя вершы Яўгеніі Пракапчук — сапраўдны «Сонечны пацалунак». Затое ў апавяданні Кацярыны Захарэвіч «Вясёлка ў цэмры» галоўную гераіню перамагаюць роспач і змрок. Твор пачынаецца нібыта адмысловым эксперыментам: «Колькі чалавек можа прабыць у цішыні і цемры, не выходзячы з кватэры, ні з кім не размаўляючы, нікога не бачачы?», а заканчваецца смерцю, хаця з заказанымі і ўзнёслымі героямі маглі здарыцца і больш цікавыя падзеі. Напэўна, многае і адбудзецца ў іншых творах маладой аўтаркі, якая ўжо мае адметны стыль.

Ганна Навасельцава зноў запрашае ў чарадзейны свет Белабога, Чарнабога, ваўкалакаў і лесуноў. Ведны чарадзей на свой лад пераказвае паданне пра цмока Крагавея, якога асілак запрог у вялізную саху і прымусіў араць векавечную мяжу. Складана вызначыць, дзе гісторыя адбываецца, а дзе згадваецца ці прадказваецца, але ўсё пачынаецца з залатакосай дзяўчыны — яна марыць навучыцца варажбе і знікае ў лістоце ясеня. Каб быць вартым яе, каханы з падтрымкай чарадзея адольвае страшнага цмока. «Вось так проста пачынаюцца легенды. Пачынаюцца з кахання і прабачэння, з рашучасці ўсё зрабіць…».

Каб утрымацца ад вельмі сур'ёзнага стаўлення да паэзіі Гвіда Каталана і пошуку звышсэнсу ў вершы «Якой халеры робіць кірлі ў Мілане?», дастаткова паглядзець відэа, дзе сучасны італьянскі паэт чытае свае вершы — на невялікай сцэне, пад гітару і часам пад смех маладой публікі. Не трэба быць вялікім экспертам, каб дапусціць, што паэзія ў Італіі — не зусім тая ж з'ява, што ў Беларусі. Вершы Г. Каталана прызначаны не толькі для публікацыі ў зборніку, але і для абавязковага выступлення з імі перад аўдыторыяй — нават у клубе, дзе можна смяяцца і есці піцу! У гэтых тэкстах іронія спалучаецца з нечым лірычным і кранальным, яны напісаны вельмі проста і, верагодна, прываблівацюь у першую чаргу непадабенствам з тым, што прынята лічыць паэзіяй. Несупадзенне, неспадзеўка, але не шок! Нягледзячы на ўвесь піетэт да вялікіх еўрапейскіх літаратур, вершы Г. Каталана наўрад ці варта ўспрымаць як вяршынную з'яву сучаснасці — гэта, хутчэй, карысны прыклад папулярнай паэзіі. Таму калі параўноўваць пераклады з вершамі Таццяны Сівец гэтага ж нумара «Маладосці», з творчасцю іншых беларускіх паэтаў, якія шукаюць і эксперыментуюць, і нават з фрагментамі-ўспамінамі Уладзіміра Сцяпана — складана сказаць, хто піша лепш і чаму.

Рубрыка «Cathedra» сталася адмысловым майстар-класам: пяць аўтараў з рознай адукацыяй напісалі пра тры нядаўнія мастацкія выстаўкі. «У чытачоў ёсць магчымасць не толькі адкрыць для сябе творчасць вельмі цікавых беларускіх скульптараў і жывапісцаў, але і параўнаць, як успрымаюць творы мастак, мастацтвазнаўца і журналісты». Як ні дзіўна, найлепшае ўражанне пакідае тэкст выпускніцы гімназіі Анастасіі Капцавай. Іншым аўтарам крыху бракуе натхнення, непасрэднасці, жадання выказаць уласныя ўражанні ад мастацтва, хаця іх публікацыі інфарматыўныя, аналітычныя і больш прафесійныя.

Для тых, хто цікавіцца беларускай літаратурай першай паловы XX стагоддзя, запамінальнай будзе чарговая архіўная публікацыя — даследаванне Антона Адамовіча «"Кацярына" Петруся Броўкі», якое не было дапісана, але выявіла нязменна датклівае стаўленне вядомага крытыка да літаратуры — калі нават пасля васьмі гадоў высылкі ды турмы чорнае і белае не мяняюцца месцамі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Каб вы былі здаровы!

Вожык. Часопіс сатыры і гумару

У чарговы раз «Вожык» вырашыў нагадаць усім аматарам гумару пра карысць здаровага ладу жыцця. А гэтае паняцце мае шмат складнікаў.

Першы з іх — спорт. Неабавязкова быць прафесійным футбалістам ці біятланістам, заваёўваць медалі на спаборніцтвах — дастаткова проста займацца фізічнай культурай, падтрымліваць сябе ў форме. А ў спорце не абыходзіцца без кур'ёзаў і смешных выпадкаў. У гэтым можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з матэрыяламі спецвыпуска «Дзе старты, там і жарты». Як хакеісты перакваліфікаваліся ў рыбакоў, хто здольны «абяссіліць» цэлую каманду спартсменаў і чаму навыкі веславання на байдарках могуць спатрэбіцца ў працы дворніка — на гэтыя і іншыя пытанні адказваюць у малюнках карыкатурысты Алег Гуцол, Вікенцій Пузанкевіч, Аляксандр Каршакевіч. Падтрымліваюць іх трапнымі жартамі і пісьменнікі, напрыклад, Міхаіл Уласенка, які мімаходзь заўважае, што «*Стаць балельшчыку спартсменам часта перашкаджае тэлевізар*» і што «*Няма вяршыняў, якія б не пакарыла фантазія спартсмена*».

Другі складнік — фізічная праца на свежым паветры. Гэта неблагая альтэрнатыва спорту! У таго, хто яе выбірае, таксама ёсць нагода паглядзець на сябе з іншага, гумарыстычнага, боку ды ўсміхнуцца. А паспрыяе гэтаму падборка карыкатур Алега Папова і Аляксандра Каршакевіча на тэму «Дача з аддачай». З яе вы даведаецеся, як выглядае «экалагічная газонакасілка» і як апрацаваць грады «ўрукапашную». А Ірына Карачун у вершы «Лепшыя лекі» падкажа, ад якой хваробы дапамажа пазбавіцца «*Народны сродак — граблі і рыдлёўка*». Зацікавіліся? Шукайце адказ на старонках часопіса!

Здаровы лад жыцця і шкодныя звычкі — рэчы несумяшчальныя. Змагацца з негатыўнымі з'явамі цяжка, але і патрэбна. Дастаецца на арэхі тым, хто любіць кульнуць лішнюю чарку. Менавіта для іх — «Карысныя парады» ад Пятра Зайца (рубрыка «Вясёлая пошта»): «*Лепш не мець такой ахвоты — / Цяжка выбрацца з балота!*» Нялёгка прыходзіцца і аматарам тытуню: ім выдзелілі вельмі спецыфічнае месца для курэння. Што б гэта магло быць? Адказ — у карыкатуры Алега Папова.

Яшчэ адзін складнік — правільнае харчаванне. Ужываць пажадана толькі натуральныя прадукты, а якія — даведаецеся з малюнка Пятра Козіча. Дарэчы, аказваецца, што шакалад таксама вельмі карысны для здароўя. Аргументы знойдзеце ў «Дыялогах і маналогах» Канстанціна Карнелюка.

І, нарэшце, яшчэ адна важная ўмова — уменне жартаваць з сябе і навакольных: гэта і ёсць паказчык псіхалагічнага здароўя. Тут можна быць спакойным — чытачы «Вожыка» дакладна ім валодаюць.

**Вераніка МАНДЗІК**

# «Мне б да праўды жыццёвай дайсці»

У нашы неспакойныя дні людзям патрэбна тое, што ачысціць душу адчуваннем прыгажосці, наблізіць да філасофскага разумення свету. Усё гэта ёсць у паэзіі Віктара Гардзея, дзе адчуваецца трапяткое рэагаванне на з'явы ды падзеі рэчаіснасці і цесная душэўная сувязь з прыродай.

Аўтар любіць вясну, якая сімвалізуе не проста паравіну года, а час духоўна-маральнага ўдасканалення: «Жыць без гора, журбы і падману», «Словы праўды я шукаю / На палетках яравых». Гэта час адчування радасных жыццёвых перспектыў у пару маладосці: «Перад новай надзеяй і марай / Гэты свет яшчэ болей люблю», «Можна жыць на поўны ўздых». Вясенняе наваколле поўніцца гукамі капяжоў, ручаёў, ласінага рыку, свісту шпакоў («З гурбаў…»), песень жаўрукоў («Пралескі»), шоргату крыг, гулу чмялёў, водгуку грому («Ля бяроз…»). Вясенняй парою лірычнага героя В. Гардзея апаноўвае «прага вечнага кахання», ён марыць сустрэцца з «бясклапотнай і смяшлівай», бо «Сэрца прагне чысціні, / Сэрцу хочацца пяшчоты». Гэта і зразумела: каханне — адзін з асноўных стымулаў паэтычнага натхнення. Лірычны герой аўтара ўспамінае пацалункі з каханай, прагулкі з ёй каля Цны, паход па суніцы ў лес. Рысы твару абранніцы — асабліва прывабныя: «Любыя вочы твае. / Мілыя, мілыя вусны». З набыццём жыццёвага досведу паэт успрымае пачуццё не праз ружовыя акуляры, а ў адзінстве яе супярэчлівых уласцівасцей і праяў: «Каханне — і грэх, і салодкі падман, / І злога Люцыпара жарты».

Асеннія роздумы аўтара сумныя, бо яму здаецца, што лепшае прайшло («Быў і я вясёлы. / Быў і я шчаслівы»). Надышла восень жыцця, ды «мудрасць цешыць мала». Герой глядзіць на магілы продкаў — «Ля крыжоў пахілых / Думы пасталелі». Аднак, суцяшае ён сябе, «застаюцца словы, / Застаюцца песні». І тады, перакананы, што моўна-літаратурныя скарбы вечныя, лірычны герой спадзяецца зноў быць шчаслівым, і з гэтым настроем сцюдзёны вецер над жаўталістымі дрэвамі яму не страшны. Не толькі любоў да роднай песні, але і працавітасць засталася паэту ў спадчыну ад продкаў — у такім ключы аўтар згадвае дзедаў плуг («Плуг») і матчыны кросны («Успамін пра кросны»). Пейзажнае паэтычнае мысленне В. Гардзея праспыяла таму, што, спасцігаючы прыродны свет, ён глыбей зразумеў сваю сутнасць: «Шукаць у шуме дрэў міжволі / І змест, і сэнс. / Сваё пазнаў я біяполе, / Як экстрасэнс». І ў зімовую завейную сцюжу аўтар марыць пра вясну — як не толькі пра прыроднае абнаўленне, але і як пра сваё душэўнае адраджэнне: «Мне б дайсці да зялёнага жыта, / Мне б да праўды жыццёвай дайсці».

У вершы «Ноты» выявілася майстэрства ў стварэнні яскравай дэталі (ластаўкі на дроце), пластычнасць і музычнасць успрымання свету. Паэт абыгрывае гучанне гамы: ноты актавы ад «до» да «до» ўпісаны ў словы, з якіх пачынаюцца радкі.

Калі У. Дубоўка параўноўваў Беларусь з шыпшынай, то В. Гардзею яна бачыцца бярозай, «…што Бог пасадзіў / І паліў вельмі горкай вадою». Далейшы шлях радзімы лірычнаму герою прадказвае бяроста — «…То чырвоная ўранку, бы кроў, / То счарнелая ўвечар, бы сажа».

Архітэктурны пейзаж таксама прыцягвае ўвагу паэта. В. Гардзей любуецца Траецкім прадмесцем — кутком старажытнасці ў сучаснасці — і перажывае за тое, што не ўсе каштоўнасці захаваліся: «Дзе твае сівыя камяніцы? / Дзе твае гатычныя дамы?».

Калі палова жыцця была пройдзена, аўтар задумаўся: што было і што чакае наперадзе? «Палавіны жыцця не хапіла / Адбяліць шрэнь зла дабяла. / Ёсць надзея, ёсць вера, ёсць сіла / У свабодным размаху крыла». Паэтава душа ўзрушана рэагуе на змены. Яму балюча за ўсё страчанае, за Чарнобыль — «Везувій сусветнага болю»; ён аднолькава шкадуе як знішчаныя лясы, так і высахлы ручай. В. Гардзей перакананы: «У дні вялікіх узрушэнняў / Народ згуртоўвае рады». Хоць паэт на свае вочы вайны не пабачыў, бо нарадзіўся па яе заканчэнні, ён просіць нас памятаць пра ахвяры («Не вернецца гора і ліха…»).

З кнігі «Межань» мы даведваемся, што аўтару давялося прайсці праз выпрабаванне пакутамі: «Стаў і я сівы, / Бы хадзіў па лёзах. / Лёс мой суравы / Выбелены ў слёзах». Тры значныя страты прыводзяць аўтара да разгубленасці і адчаю: «Чаму ж так? Гляджу вінавата. / Лёс выраў з пагляду майго / І сына-салдата, і брата, / І брата яшчэ аднаго». Са смерцю родных цяжка змірыцца. Максімальна аўтабіяграфічны лірычны герой аўтара адчувае, што ён нібыта з попелу ўстае, «Забыты Богам, не прыняты д'яблам. / Сярод такіх жа смертнікаў, як сам». Расстанне з летуценнямі пра чалавечую цялесную неўміручасць трагічна-балючае. Таму «Царства дня — то царства ценяў. / Царства ночы — царства цьмы». Таму, відаць, палюбіў «вячэрняе сутонне» і «ночы цень», калі «Душа збалелая заве / Да ранку ў зорную вандроўку». Цені нябожчыкаў «Пайшлі за дажджамі, за громам, / Пайшлі і расталі, як дым», а лірычны герой жыве на гэтым свеце «ў прадчуванні сустрэчы» з імі. І ў паслячарнобыльскія гады, і асабліва пасля страты блізкіх людзей вершы В. Гардзея набываюць збольшага мінорную танальнасць.

Твор «Межань» даў назву вышэйзгаданай кнізе аўтара. Вобраз ракі, якая вясной віравала і імкнулася выйсці з берагоў, а восенню суцішылася, сімвалічны. Гаворачы, што «…на вяку / Ступіць наўрад ці ўдасца двойчы / У тую самую раку», паэт праводзіць паралель са сваім лёсам. Надышла восень, час межані, якая асацыятыўна-сімвалічна перагукаецца з «мяжой» — паміж мінулым і будучым, якая прымушае задумацца, ці шмат зроблена для людзей, ці адпрацаваў падораны Богам талент. Верш заканчваецца надыходам вясны і віраваннем ракі, якія можна ўспрымаць як надзею аўтара на творчае натхненне і новыя вершы як спатолю для душы. Аўтар, відаць, і хацеў бы весялейшай музы, аднак жыццё не дае падстаў для радасных вершаў. Аўтабіяграфічны лірычны герой-паэт чакае натхнення, якое нарэшце прыходзіць — «…І ўжо шчымяць пакуты / На кончыку пяра». Вершы В. Гардзея аздоблены і містычнымі элементамі. Так, лірычны герой бачыць жахлівую карціну: «…з начы / Скача конь вараны, — значыць, чорны, / Ды і коннік у чорным плашчы. / Жах такі, што і рукі паслаблі. / А будзільнік трашчыць: гэта ж дзень! / І — святлынь! Толькі мроіцца шаблі, / Нада мною занесенай, цень». Тут чорны коннік з шабляй, відаць, — увасабленне смерці, якой баіцца кожны чалавек.

Але маштаб здзейсненага творцам навявае думку пра духоўна-культурную неўміручасць яго спадчыны. В. Гардзей — аўтар вершаў не толькі для дарослых, але і для дзяцей. Акрамя таго, ён яшчэ і празаік, перакладчык, аўтар прадмоў і пасляслоўяў да кніг паэтаў, аўтар паэтычнай «Малой дзіцячай Чырвонай кнігі» ў двух тамах: «Ахоўная фаўна» і «Ахоўная флора», кніг-фотаальбомаў «Белавежская пушча і «Ганцаўшчына — край легенд і талентаў народных». Хочацца пажадаць аўтару магутнага натхнення, каб з яго ўзышлі новыя вершы для ўзрушэння і лекавання нашых душ.

**Таццяна БАРЫСЮК**



**Віктар Гардзей**

***

*Дрэвы гнуцца ад ветру ў маркоце,*
*І сляды замятае ў трысці.*
*Мне ісці*
*нацянькі*
*па балоце,*
*Мне ўкруга да сябе не дайсці.*

*Я, канечне, і сёння не знаю,*
*Што чакае мяне за імглой.*
*Шмат было*
*і нуды,*
*і адчаю*
*У дыханні завеі начной.*

*Але неба святлее ўсё болей,*
*І слабей ужо вецер гудзе.*
*Мне ісці па ярах,*
*цераз поле,*
*Мне ісці па адліжнай вадзе.*

*За ярамі, за далеччу сіняй*
*У бядзе быў*
*і я сам не свой.*
*Пасля бур непрыкметна,*
*як іней,*
*На зямлю асядае спакой.*

*Да вясны будзе снегам прыкрыты*
*Гэты след у змакрэлым трысці.*
*Мне б дайсці*
*да зялёнага жыта,*
*Мне б да праўды жыццёвай*
*дайсці.*

# Яшчэ адна кніга

Летась у мінскім выдавецтве «Ковчег» выйшаў зборнік выбранай лірыкі Аляксандра Быкава «За межы круга». Гэта паэзія сціплая і спакойная пры гэтым вельмі шчырая, нават спавядальная. Чысціня думак і слова — аснова творчасці А. Быкава.




Першы раздзел мае назву «Дарога да маці», і дарога гэта на сямнаццаты кіламетр шашы Барысаў-Зембін, дзе на Елісееўскіх могілках пахавана маці паэта Ганна Нарцызаўна: «Зламалася нясцерпна-хрустка // Душа, як звонкая страла ... // Вянцом няношаная хустка // Лягла паверх тваіго чала». Паэт разважае пра хуткацечнасць жыцця і пра свае дзіцячыя мары: «Здавалася, як быў малечаю, // Лістком бярозавым трымцеў, // Што маці, як і сонца, вечная // І на яе адну спадзеў». З цягам часу стала ясна, што жыццё мае свой радасны пачатковы адлік, але, на жаль, у яго ёсць і канцавы прыпынак, які яшчэ нікому не ўдалося абмінуць. «Чорная зграя // Птушак пасела. // Хата матулі // Асірацела. // Асірацела... // І на падворку // Ветрык нясмелы, // Роспачна горкі // Ціха гартае // Жоўтае лісце. // Быццам шукае // Нейкае выйсце...».

Аднак жыццё не спыняецца, працягваецца ў нашчадках. Радкі А. Быкава пра ўнука лёгкія, светлыя, але пяшчота мяжуе са смуткам: «Восень лісты губляе, // Губіць мяне, натхняе. // Восень зіму прарочыць, // Крочыць пацю ху, крочыць. // Час — ён ляціць, як коннік, // Белым фарбуе скроні. // Ўнучак у класе першым // Вучыць пра восень вершык. // Там, за мяжой нябачнай, // Сонца садзіцца мячык. // Грэе яно паэта // Водбліскам шчодрага лета».

Вершы паэта збольшага аўтабіяграфічныя. Аднак часта асабістае пераліваецца за межы біяграфіі філасофскімі разважаннямі. «Віктосева крыніца» становіцца сімвалам чысціні краіны, яе бясконцасці ў часе: «Жыве яна, бруіцца — // Не вычарпаць да дна — // Віктосева крыніца // Пад Мядзелам здаўна. // Зусім непадалёку // Хай горада агні — // Глыбінныя вытокі, // Як нашы карані...» Просты на першы погляд верш «Цішка» на самай справе можна назваць энцыклапедыяй жыцця сучаснай выміраючай вёскі («У Зацішшы зацішна, // Сум забітых хацін»): мужчынская частка насельніцтва амаль цалкам перасялілася ў лепшы свет («І захмелены Цішка — // На ўсю вёску адзін»), а жанчыны сталага веку просяць дапамогі ў адзінага аднавяскоўца («Так бабулькі папросяць — // Не адмовіш ніяк. // Узарэ ён і скосіць // За гарэлачны смак»), яму цяжка ўжо даецца гэтая дапамога («Яблык падае спелы // На вячэрні мурог. // Дрэме Цішка змарнелы — // Выратоўца і Бог»). Цішка выразна паўстае перад вачыма: невялікага росту, худы і счарнелы тварам ад сонца і цяжкой працы чалавек, які так і не нажыў багацця, але захаваў якасці, што здаўна пакладзены ў аснову вясковага жыцця: працавітасць, пачуццё ўзаемадапамогі, дабрыню, любоў да зямлі і спачуванне да людзей, што яе насяляюць.

А. Быкаў з усёй сур'ёзнасцю ставіцца да прызвання паэта. Нягледзячы на сціпласць і невысокую ацэнку сябе як творцы («Нашы музы бабулямі сталі — // А мы так і не выйшлі ў паэты»), у вершы «Споведзь» ён выказвае поўнае разуменне вялікай місіі пісьменніка, у тым ліку — сваю адказнасць перад чалавецтвам:

*Каментарыі тут ці патрэбны:*
*Мудрагеліста як ні пішы —*
*У паэтаў ёсць вечнае неба*
*І бясконцая споведзь душы...*
*Перамелюць касмічныя жорны*
*Лёсы нашыя ў пыл зямны —*
*І часцінкаю станем міжзор'я,*
*Абудзіць каб той свет нямы!*

Па-свойму А. Быкаў звяртаецца да Бога: «Дайшоўшы да апошняе мяжы, // Парушылі мы некалі ўсе храмы. // І вось цяпер, хто крыжаваў крыжы, // Уклепчыў там бадай што першы самы». Вера і святасць прыходзяць да чалавека паступова, гэты няпросты працэс мы бачым у адным з вершаў аўтара: «...Растуць, як з дожджыку грыбы, // Ў айчыне храмы. // Ляцелі некалі на дол // Званы й галовы... // А сёння вось і я прыйшоў // У храм, у новы. // Прыйшоў не каяцца слязой // І не маліцца... // Хаця б нясмелаю рукой // Перахрысціцца». І ў сувязі з гэтай тэмай імпануюць разважанні аўтара пра месца чалавека ў Сусвеце: «Калі ўсё належыць // высокаму Богу — // Як зведаць нам межы // Свайго эпілога? // Мо станем расою // Ці пылам дарожным? // Пякучай слязою // У свеце астрожным?.. // А можа, за краем, // За новай адлігай, // У Богавай краме — // Яшчэ адной кнігай?!.»

**Надзея СЕНАТАРАВА**



# Зарыфа. Пунсовай ружаю…

**Акадэмік Зарыфа ханум Аліева, выбітны даследчык, таленавіты арганізатар, заслужаны дзеяч навукі і чалавек, працамі якога азербайджанская афтальмалогія была ўзнятая на недасягальную вышыню, нарадзілася 28 красавіка 1923 года ў сяле Шахтахты Шарурскага раёна ў сям'і вядомага дзяржаўнага і навуковага дзеяча Азіза Аліева. Жыццёвы шлях бацькі стаў для яе сапраўднай школай. Поспехі, дасягнутыя акадэмікам Зарыфой Аліевай, — асобны этап у гісторыі азербайджанскай медыцынскай навукі.**

Яе біяграфія пачалася ў далёкай нахчыванскай вёсцы ў той гістарычны дзень, калі Азербайджан быў абвешчаны савецкай рэспублікай. Здаецца, ёй проста наканавана было стаць гістарычнай асобай. Ва ўсякім разе, у колішнім СССР — краіне, дзе сціпласць і шчырасць успрымаліся як дабрадзейнасць і былі да месца на любой прыступцы грамадскага п'едэстала. Як дасягаліся і дасягаюцца (пры любым раскладзе) не грамадскія — чалавечыя вышыні? Беларускамоўны варыянт кнігі Гусейнбалы Міраламава «Зарыфа Аліева» (у перакладзе Э. Ісмаілавай і А. Бадака), выдадзенай у Мінску ў 2011 годзе, прапануе паразважаць не толькі над гэтымі, але і многімі іншымі тэмамі, якімі нельга грэбаваць ніводнаму з нас.

Кнігу падарыў рэдакцыі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ, член Саюза пісьменнікаў Беларусі і даўні сябра рэдакцыі. Пра жыццёвы шлях сапраўды выдатнай жанчыны дакладна распавядаюць архіўныя матэрыялы, шчымлівы і пранікнёна — людзі, якія яе блізка ведалі.

— Што б мы ні казалі, кожны чалавек фарміруецца ў сям'і, — упэўнены спадар Пасол. — Зарыфе ханум у гэтым вельмі пашанцавала. Яна выхоўвалася сярод людзей, якія добра ўсведамлялі, што такое маральнасць і павага да блізкага, што галоўнае ў жыцці — больш умець і ведаць, а значыць, і больш працаваць… Гэта былі людзі з вялікім, прынцыповым пачуццём адказнасці: дома, на працы, заўсёды і ва ўсім...

Яе выбар — лячэбны факультэт Азербайджанскага медыцынскага інстытута — зусім не выпадковы. Адным з першых кіраўнікоў гэтай ВНУ калісьці быў яе бацька, пазней — выбітны арганізатар галіны аховы здароўя ў Азербайджане. Скончыўшы інстытут у 1947 годзе, Зарыфа Аліева два гады спецыялізавалася на захворваннях вачэй у Маскоўскім цэнтральным інстытуце ўдасканалення ўрачоў. Падаецца лагічным, што потым большую частку свайго працоўнага жыцця З. Аліева працавала ў Азербайджанскім дзяржаўным інстытуце ўдасканалення ўрачоў.

— Тыя, хто блізка ведаў Зарыфу ханум у маладосці, сцвярджалі наступнае: Бог стварыў гэтага чалавека для таго, каб рабіць дабро, — распавядае спадар Пасол. — Учэпісты розум, прага да ведаў, шырокая эрудыцыя… Аднак яна ніколі не імкнулася паказаць сваю перавагу. Ні над кім! Добразычлівасць, гатоўнасць ісці на кантакт і кінуцца на дапамогу прыкметна вылучалі яе і адначасова рабілі роўнай сярод роўных.

У гады, калі доктар Зарыфа толькі ўваходзіла ў прафесію, адным з галоўных клопатаў медыкаў была барацьба з трахомай — інфекцыяй, што заканчвалася для чалавека стратай зроку і набывала пагражальныя маштабы. Зарыфа Аліева абрала для сябе адзін з найскладаных участкаў — апекавала вясковыя селішчы і дзіцячыя дамы. Пазней яна выклала сабраныя дадзеныя ў кандыдацкай дысертацыі, і гэта важкае слова ў медыцыне.

Шлях ад ардынатара да акадэміка атрымаўся не з лёгкіх: крок за крокам, праз конкурсныя адборы, яна ішла да поспеху, разлічваючы толькі на свае сілы. Доктарскую дысертацыю Аліева бліскуча абараніла ў 1976 годзе ў Маскве, у Навукова-даследчым інстытуце імя Гельмгольца.

Яна паспявала шмат чытаць, мела здольнасць адэкватна аналізаваць падзеі, што адбываліся ў свеце медыцыны. Яна была выдатным аратарам — выказвалася прыгожа і пераканаўча: на шматлікіх міжнародных сімпозіумах і з'ездах яе выступленні традыцыйна прыцягвалі ўвагу.

Доктару Аліевай належыць 140 навуковых прац. Цікавы факт: Зарыфа Аліева — адзін з афтальмолагаў, што стаялі ля вытокаў новага кірунку дыягностыкі захворванняў арганізма па характары змен радужнай абалонкі вока і адзін з аўтараў унікальнай навуковай працы «Асновы ірыдадыягностыкі». А яшчэ яна стала першай у СССР жанчынай-афтальмолагам, якая атрымала адну з самых прэстыжных узнагарод, — прэмію імя акадэміка М. І. Авербаха, заснавальніка Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута афтальмалогіі імя Гельмгольца.

— Ушанаваная мноствам рэгалій, яна параненейшаму заставалася чалавекам далікатным, — гэты факт асабліва падкрэслівае спадар Пасол. — Загадчыца кафедры, якая з павагай ставілася да сваіх падначаленых. Жонка, маці, бабуля, сястра — з пяшчотным, выключна беражлівым стаўленнем да кожнага члена сям'і. Дазволю сабе прывесці словы мужа акадэміка Зарыфы ханум, агульнанацыянальнага лідара азербайджанскага народа, першага прэзідэнта краіны Гейдара Аліева, прамоўленыя падчас цырымоніі адкрыцця помніка гэтай выдатнай жанчыне: «Зарыфа ханум была вялікім навукоўцам. Калі мы яшчэ толькі будавалі сям'ю, яна ўжо ўступіла на шлях навукі… Яе навуковая дзейнасць вядома ўсім. Яна была вельмі таленавітым, добразычлівым і сціплым чалавекам… Сёння я схіляю галаву перад памяццю Зарыфы ханум за тое, што наша сям'я, дзеці — сваім выхаваннем і я — усім маім жыццём абавязаныя ёй. Яе роля неацэнная...»

І зноў — факты. Не менш адметныя. Зарыфа Аліева мела ўсе магчымасці выходзіць у свет разам з мужам — ён прысутнічаў на прэм'ерах спектакляў, прэзентацыях, прыёмах знаных гасцей… Але, па сведчаннях сучаснікаў, разумеючы, што гэта можа быць успрынята як дэманстрацыя шчасця быць побач, а значыць, свайго роду маветон, яна лічыла за лепшае заставацца ў цені. Калі ўвогуле можна назваць ценем яе бліскучае ўзыходжанне на Алімп навукі. «Прыроднае пачуццё годнасці і вялікая сціпласць дыктавалі ёй стыль паводзін і ніколі яе не падводзілі. Права звацца першай лэдзі Зарыфа Азізаўна Аліева вытрымала з гонарам найперш як чалавек, чые дасягненні сталі здабыткам сусветнай грамадскасці», — падкрэсліў азербайджанскі дыпламат.

Яна пражыла 62 гады. «З дня ў дзень, як нямая зорка, згасала сястра мая Зарыфа… Яна нарадзілася вясной і навекі заплюшчыла вочы за трынаццаць дзён да дня свайго нараджэння. Мне здаецца, яна сама з'явілася сюды са свету, напоўненага духмянымі вясновымі кветкамі — пунсовымі ружамі, залатымі нарцысамі… І ў фатальны дзень вясны — 15 красавіка 1985-га — мая сястра ў абдымках родных азербайджанскіх кветак на маскоўскіх магілках назаўжды вярнулася ў тое царства кветак…» Гэтыя пранізлівыя словы належаць брату Зарыфы Аліевай (у кнізе ён пазначаны як дырэктар Анкалагічнага навуковага цэнтра Міністэрства аховы здароўя рэспублікі акадэмік Джаміль Аліеў). І — ва ўсякім разе, на мой погляд — даюць даволі яскравае ўяўленне пра ўзровень адносін у гэтай сям'і.

Праз тры дні выбітнай дачцэ Азербайджана акадэміку Зарыфе Аліевай споўніцца б 91 год. На Алею ганаровага пахавання, як і кожны раз у дні яе нараджэння і смерці, да заўсёды ўпрыгожанага кветкамі помніка работы вядомага азербайджанскага скульптара Амара Эльдарава зноў прыйдзе мноства людзей — і блізкіх, і чужых. Іх аб'ядноўвае памяць пра яе. І гонар — за тое, якой яна была.

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

**Народны паэт Азербайджана Бахціяр Вагабзадэ пісаў з глыбокім смуткам у «Марсіе-рэквіеме»:**

*… І сцякаюцца людзі ракою,*
*смуткуючы.*
*Парасоны,*
*быццам кветкі,*
*паплылі над натоўпам.*
*Хай жа напоўніцца святлом*
*магіла твая!*
*У Новадзевічы ты здабыла супакой.*
*…Ты набыла пашану па заслугах і праве.*
*Зло зняславіць,*
*дабро адгукнецца на славу.*
*І пакіне свой след на зямлі чалавек.*
*І не труна над натоўпам плыве,*
*не каўчэг*
*Завяршальнай вяхой адвечнага кола,*
*А трон вышыні і велічы духу!*
*Днём вясновым*
*зацьмілася*
*нябесная вышыня.*
*Выходзіла дажджамі сумна і сіра.*
*І струменіўся*
*пранізліва-балюча*
*«Сенсіз»,*
*Так аплакаў цябе раманс Узеіра.**

* Узеір Гаджыбекаў — вядомы азербайджанскі кампазітар.




*З нагоды*

# Класіка вуснамі дзяцей

Нацыянальны акадэмічны драматычны рускі тэатр імя Максіма Горкага сустракаў аматараў класічнай літаратуры, экспрэсіўных дэкламацый і маладзевай творчасці. У яго сценах адбыўся Нацыянальны этап II Міжнароднага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка».

Кніга — адзін з самых яркіх цудаў свету, якое з дзіцячых гадоў становіцца лепшым сябрам і дарадцам чалавека, злучае мінулае з сучаснасцю, раскрывае вобраз і лечыць душу. Праект «Жывая класіка» — пацвярджэнне таго, што новае пакаленне не забывае пра літаратуру, цікавіцца і сучаснай паэзіяй, і класікай.

Спаборніцтвы па чытанні ўголас адбыліся паміж школьнікамі ва ўзросце 11 — 12 гадоў. Яны дэкламавалі ўрыўкі з твораў расійскіх і замежных пісьменнікаў — Антона Чэхава, Мікалая Гогаля, Уладзіміра Багамолава, Леаніда Андрэева, Віктара Драгунскага, Марка Твэна і іншых. Удзельнікі прыехалі з усіх куткоў Беларусі, па тры чалавекі ад кожнай вобласці, з больш чым 570 адукацыйных устаноў. Традыцыйна конкурс праводзіцца з 1 лютага ў некалькі этапаў, уключаючы школьны, раённы, рэгіянальны, нацыянальны і міжнародны ўзроўні.

Дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі Раіса Сідарэнка лічыць, што «Жывая класіка» — гэта не проста конкурс, а сапраўднае свята шчырых пачуццяў, мудрых думак, якімі дзеляцца праз літаратуру юныя чытальнікі. Звяртаючыся да ўдзельнікаў, яна ад душы адзначыла: «Сябры, я так вам зайздрошчу, бо ў вас наперадзе яшчэ столькі выдатных адкрыццяў у свеце літаратуры! Не параўнальнае ні з чым адчуванне, якое прыходзіць, калі адгортваеш першую старонку незнаёмай табе кнігі, а потым паглыбляешся ў яе. Хочацца, каб усе людзі пастаянна шукалі, што ім прачытаць, як узбагаціць сябе, узвбраць веды, пакінутыя вялікімі продкамі. У класікі няма часу, яна заўсёды актуальная».

Пераможцамі Нацыянальнага этапу «Жывой класікі» сталі Віктар Шыман з Мінскай вобласці, Ілья Космач з Брэсцкай і Эліна Велесік з Гродзенскай. Юныя таленты былі запрошаны на міжнародны фінал, які адбудзецца 6 ліпеня ў Маскве, дзе яны будуць прадстаўляць сваю радзіму сярод 25 краін свету.

У журы былі вядомыя народныя артысты нашай краіны, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, выкладчыкі і кіраўніцтва ВНУ Беларусі, ганаровыя госці з Расіі. Нягледзячы на іх досвед, мудрасць і аб'ектыўны падыход да ацэнкі выступоўцаў, вызначыць найлепшых было вельмі складана. Хлопчыкі і дзяўчынкі прадэманстравалі незвычайнае акцёрскае і прамоўніцкае майстэрства, эрудыцыю, смеласць і абаяльнасць, захапіўшы ўвагу аўдыторыі на некалькі гадзін!

Конкурс чытальнікаў праходзіў пад патранатам Міністэрства адукацыі і навукі Расійскай Федэрацыі, Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях, Федэральнага агенцтва па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў, суайчыннікаў, якія пражываюць за мяжой, Рассупрацоўніцтва, Урада Масквы. Велізарную падтрымку ў правядзенні мерапрыемства аказалі Міністэрства адукацыі і Міністэрства культуры Беларусі, а таксама Нацыянальны акадэмічны драматычны рускі тэатр імя Максіма Горкага.

Варта адзначыць, што праект «Жывая класіка» — пераможца І нацыянальнай прэміі «Грамадзянская ініцыятыва» ў намінацыі «Духоўная спадчына».

**Марыя ВОЙЦІК**

Кніжны свет

**25 красавіка 2014 г.**

**100 год кнізе**

# На памяць ад аўтара

Ужо стагоддзе мінула з таго часу, як зборнік вершаў «Вянок» М. Багдановіча ўбачыў свет у Вільні, у друкарні Марціна Кухты. Адбылася гэта значная падзея напрыканцы 1913 года, а па сведчанні Вацлава Ластоўскага — на пачатку 1914-га. Вельмі хутка кніга паступіла ў продаж, а пасылка з аўтарскімі экзэмплярамі накіравалася ў далёкі Яраслаўль. Напэўна, дзень, калі Максім Багдановіч атрымаў на пошце цяжкі пакунак з кнігамі, стаў для яго самым шчаслівым, а атрыманыя «Вянкі» былі падпісаны аўтарам і адправіліся ў далейшае падарожжа да родных і сяброў. Звернем нашу ўвагу на асобныя зборнікі вершаў, частка з якіх захавалася да нашага часу, а пра іншыя ёсць звесткі ў літаратуры. Усе гэтыя кнігі аб’ядноўвае дата, прастаўленая М. Багдановічам у дароўных надпісах.

Каштоўныя экзэмпляры зборніка «Вянок» з аўтографамі паэта захоўваюцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Першую з іх перадаў 18 верасня 1981 года ніжагародзец Аркадзь Бараховіч, муж стрыечнай пляменніцы паэта. Прывезены ім зборнік «Вянок» некалі Максім падпісаў і падараваў сваёй стрыечнай сястры Ганне Гапановіч. Кніга — каштоўны экспанат, таму што ўтрымлівае аўтограф паэта: «Сестрице Нюте от любящего её автора. М. Богданович. 22.03.1914 г.». Такім чынам, адзначаем першы экзэмпляр кнігі, на якім прастаўлена дата — 22 сакавіка 1914 года.

У 1984 годзе Ніна Ватацы, даследчыца і апантаная збіральніца спадчыны паэта, перадала ў фонды музея Максіма Багдановіча яшчэ адзін экзэмпляр «Вянка». Гэта кніга таксама ўтрымлівае дароўны надпіс аўтара: «Тёте Маше от любящего ее автора. М. Богданович. 22.03.1914 г.». Заўважым, што даты двух аўтографаў супадаюць, як і адносіны, якія выказвае паэт да блізкіх яму жанчын, стрыечнай сястры Ганны і цётухны Машы, Марыі Ягораўны Галаван. Яна ў свой час замяніла Максіму і яго братам маці, сагрэла іх сваёй пяшчотай і любоўю.

Адам Багдановіч, бацька паэта, ва ўспамінах пісаў, што яго сям’я і сем’і яго сясцёр, Марыі і Магдаліны, якія пераехалі жыць у Ніжні Ноўгарад, утварылі «беларускую калонію ў далёкім краі пры зліцці рэк Акі і Волгі». Таму малады паэт не мог абысці ўвагай сваю другую цётухну, Магдаліну Гапановіч, тым больш што ў адносінах да радзімы, да Беларусі, у іх абодвух назіраецца поўнае суладдзе. Магдаліна Ягораўна таксама атрымала падарунак ад Максіма — зборнік вершаў «Вянок» з дароўным надпісам: «Тёте Магдалине на память от автора. М. Богданович. 22.03.1914». Гэты каштоўны экзэмпляр захоўваўся ў Ніжнім Ноўгарадзе ў нашчадкаў сям’і Багдановічаў і быў перададзены Н. Б. Ватацы, якая, у сваю чаргу, перадала зборнік у музей паэта ў Мінску. А тое, што ўжо трэці аўтограф датуецца 22 сакавіка 1914 года, толькі падкрэслівае радасныя пачуцці аўтара і гонар за зробленае.

Існаваў яшчэ адзін экзэмпляр «Вянка» 1913 года выдання, падараваны Максімам Багдановічам стрыечнай сястры Веры Гапановіч, дачцэ цёткі Магдаліны. У артыкуле «Дом детства М. Богдановича» ўжо згаданы намі А. Я. Бараховіч напісаў пра гэтую кнігу і нават даў ілюстрацыю — фотаздымак тытульнага ліста, на якім выразна чытаецца дароўны надпіс аўтара: «Сестрице Вере от любящего её автора. 22.03.1914 г. (выдзелена намі. — **І. М.**)». Было пазначана, што кніга захоўваецца ў сям’і Кунцэвічаў. На жаль, на сённяшні час не ўдалося ўстанавіць месцазнаходжанне гэтага экзэмпляра: пошукі, якія вялі музейныя супрацоўнікі, не далі вынікаў.




*Тытульны ліст «Вянка» з дароўным надпісам М. Багдановіча (першы зборнік у фондах музея).*

Але застаюцца спадзяванні на тое, што гэты «Вянок» не знікне ў часе ды прасторы і калі-небудзь вернецца на радзіму паэта.

Такія самыя спадзяванні застаюцца і ў адносінах да яшчэ аднаго «Вянка» (1913), які некалі належаў Антону Луцкевічу, аднаму з выдаўцоў «Нашай Нівы», аўтару першай рэцэнзіі на зборнік вершаў М. Багдановіча. Рэцэнзія «Пясняр чыстай красы» за подпісам «Г. Б.» была апублікавана ў газеце «Наша Ніва», № 8, 21 лютага 1914 года. Паэт адгукнуўся на артыкул крытыка вершам, які ўпершыню быў апублікаваны ў зборніку «Заходняя Беларусь», у 1924 годзе. Невядомы твор М. Багдановіча з’явіўся ў рубрыцы «З нязнаных твораў М. Багдановіча» з прадмовай, у якой тлумачацца прычыны напісання верша як своеасаблівай удзячнасці паэта за рэцэнзію. Звернем увагу на наступныя радкі: «Прачытаўшы яе, паэт прыслаў свайму крытыку экзэмпляр «Вянка» з гэткім надпісам:

*Дзень добры, Пане!*
*Вось Вам просты надпіс:*
*Ёсць гэткая японская забаўка, —*
*Кідаюць дробныя асклёпкі дрэва*
*У ваду — і робяцца яны цвятамі.*
*Усё гэта мне згадалась мімаволі,*
*Калі чытаў я Вашую стаццю*
*Аб вершыках «Вянка». І шлю падзяку*
*І цісну руку. Ваш М. Багдановіч.*
*22.III.1914 г. Яраслаўль».*

Гэта значыць, што зборнік вершаў «Вянок», які зусім нядаўна прыбыў у Яраслаўль з Вільні (ледзь не з рук самога А. Луцкевіча), амаль адразу выправіўся ў зваротнае падарожжа. Але каштоўнасць гэтай кнігі была ўжо значна вышэйшая, чаму спрыялі дароўны надпіс аўтара і верш-падзяка. Пазначаная ў аўтографе дата, 22 сакавіка 1914 года, дазваляе вылучыць версію пра тое, што менавіта ў гэты дзень Максім Багдановіч упершыню ўбачыў зборнік вершаў «Вянок» — вынік сваёй творчай напружанай працы, і спяшаўся падзяліцца радасцю з самымі блізкімі. Заўважце, ужо пяць экзэпляраў кнігі маюць адну дату.

Крыху выбіваецца з гэтага шэрагу яшчэ адзін арыгінальны зборнік «Вянок» з аўтографам аўтара. На жаль, выявы аўтографа не захавалася, але пра зборнік узгадвалі ўкладальнікі першага збору твораў пісьменніка (1927 — 1928), у тым ліку і літаратуразнавец Васіль Фёдаравіч Мачульскі, які падрыхтаваў «Вопіс рукапісаў М. Багдановіча і матэрыялаў да яго біяграфіі». Ён апісвае чатыры зборнікі «Вянок», якія захоўваліся ў Інстытуце беларускай культуры. На адным з гэтых экзэмпляраў быў дароўны надпіс — «Милому человеку и товарищу по работе Николаю Григорьевичу Огурцову от автора. 1914-20 III». Захаваліся фрагменты ўспамінаў М. Р. Агурцова, супрацоўніка яраслаўскай газеты «Голос», дзе сустракаем такія радкі: «Аднойчы Максім Адамавіч прынес мне вельмі дрэнна выдадзеную кніжачку сваіх вершаў на беларускай мове, гэта быў падарунак з аўтографам». Таямніца ў тым, што падарунак застаўся ў М. Багдановіча і нават выкарыстоўваўся ім для далейшай працы — над некаторымі вершамі з гэтай кнігі былі пазначаны паэтам памеры і строфіка.

Таямніцу ўтрымлівае і дата, пазначаная ў аўтографе, заўважым — 20, а не 22 сакавіка, як у вышэйапісаных. Магчыма, якраз у гэтым, памылкова напісанай даце, і заключаецца прычына, па якой экзэмпляр застаўся ў аўтара, а яго сябра атрымаў іншы асобнік кнігі. Ёсць і іншыя версіі напісання гэтай даты: памылка магла з’явіцца пры расчытванні аўтографа даследчыкамі, пры наборы рукапіснага тэксту на друкарскай машынцы, прапушчана пры карэктуры і г. д.

На жаль, пакуль нам застаецца толькі разглядаць тыя ці іншыя версіі і спадзявацца, што час раскрые ўсе таямніцы, што знойдуцца арыгінальныя зборнікі вершаў «Вянок» М. Багдановіча, выдадзеныя ў далёкім 1913 годзе. Магчыма, гэта будуць згаданыя вышэй асобнікі, ужо знаёмыя нам завочна, але пакуль не знойдзеныя, альбо іншыя кнігі з аўтографамі паэта, пра якія яшчэ не ведаюць даследчыкі і музейныя супрацоўнікі.

А сёння з высокай доляй верагоднасці мы можам назваць дзень, 22 сакавіка 1914 года, калі Максім Багдановіч, малады беларускі паэт, атрымаў доўгачаканы падарунак з Вільні, свой зборнік вершаў «Вянок». І роўна праз стагоддзе можам урачыста адзначыць гэтую слаўную дату, перачытаўшы вершы «Вянка»...

**Ірына МЫШКАВЕЦ**

**Унікальны праект**

# Дапаможнік для гаспадынь

*Фота Натали Купрэвіч*



*Алена Мікульчык прадстаўляе сваю кнігу «Лепшыя стравы беларускай кухні».*

Жанчыны ва ўсе часы цікавіліся кулінарыяй, памяталі рэцэпты сваіх мам, бабуль. Напэўна, так будзе працягвацца заўсёды. Але ці ведаем мы сёння, якія стравы гатавалі нашы далёкія продкі, якую гісторыю мае, да прыкладу, беларускі нацыянальны напой збіцень і як правільна падсмажыць дранікі? Думаю, не.

Цяпер ёсць выдатная нагода і магчымасць даведацца пра шмат адметных рыс нашай кухні. У выдавецтве «Галіяфы» пабачыла свет кніга вядомага кулінара, гісторыка кухні Алены Мікульчык «Лепшыя стравы беларускай кухні». Прэзентацыя яскравага дапаможніка для гаспадынь прайшла ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.

Кніга мае некалькі рыс, якія вылучаюць яе ў шэрагу падобных выданняў. Па-першае, расповед пра кожную страву распачынаецца невялікім падарожжам у гісторыю. Аўтарка апавядае, чаму страва атрымала менавіта такую назву, як гатавалі яе нашы продкі, а ўжо потым прыводзіць рэцэпт і тэхналогію прыгатавання. Па-другое, сам працэс гатавання апісваецца дакладна і падрабязна, каб нават непадрыхтаваная гаспадыня змагла парадаваць хатніх стравай беларускай нацыянальнай кухні. Па-трэцяе, прадукты, з якіх прапаноўваецца гатаваць, — досыць танныя, яны вырошчваюцца ў нашай краіне. І гэта лагічна, бо гаворка ідзе пра беларускую кухню. Па-чацвёртае, выданне багата ілюстраванае, прыгожае, яго проста прыемна гартаць. А яшчэ больш шырокай патэнцыяльную аўдыторыю выдання робіць тая акалічнасць, што яго тэкст прадстаўлены на дзвюх мовах — рускай і англійскай.

— У працэсе працы над кнігай я спецыяльна гатавала па 10-15 страў на дзень, мы ўсё гэта прыгожа выкладвалі на талеркі, упрыгожвалі і фатаграфавалі — каб было смачна нават на фотаздымку, — распавяла Алена Мікульчык. — Потым разам з дзяўчатамі-фатографамі елі! Дарэчы, падчас такога актыўнага ўжывання страў беларускай кухні мы не дабавілі вагі, а, наадварот, пахудзелі. Такім чынам, развеялі міф пра тое, што стравы беларускай кухні надта тлустыя. Насамрэч яны вельмі карысныя і... садзейнічаюць пахудзенню, трэба толькі ведаць, што і ў які час дня есці.

У аснову кнігі леглі ўласныя даследаванні аўтаркі, а гісторыяй беларускай кухні Алена Мікульчык займаецца каля 15 гадоў. Даследчыца працуе са старымі кнігамі, ладзіць кулінарныя экспедыцыі ў розныя куткі Беларусі. За гэты час назапашана багата матэрыялаў, таму нават не выпадае і сумнявацца ў тым, што прадстаўленыя на старонках новай кнігі стравы — сапраўды самыя лепшыя. Мо проста таму, што яны нашы, беларускія?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Беларуская літаратура

**Іконнікава, Л. У.** Мастацкі свет твораў Георгія Марчука: драматургія, проза, казкі / Людміла Іконнікава; [навуковы рэдактар: В. А. Максімовіч]. — Мінск: Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2013. — 203 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-90149-9-4.

**Кароткі, У. Г.** Беларуская літаратура і гісторыя: [зборнік артыкулаў] / У. Г. Кароткі; [навуковы рэдактар Ж. В. Некрашэвіч-Кароткая]; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: БДУ, 2013. — 209 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 120 экз. — ISBN 978-985-518-809-5.

### Геаграфія. Біяграфіі. Гісторыя

### Краязнаўства

**Быховский район**: древняя земля на берегу Днепра / [текст: Сергей Жижиян; фото: Сергей Плыткевич]. — Минск: Рифтур Принт, 2013. — 46 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-7047-32-1.

**Гомельская область** = Region of Gomel: паспорт / [составитель В. А. Сидорчик]. — Минск: БЕЛТА, 2013. — 32 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7064-02-1.

**Краязнаўца-падзвіжнік Міхась Ласоўскі** / [складанне і агульная рэдакцыя Віктара Арцем'ева]. — Магілёў: АмелияПринт, 2013. — 79 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6891-26-0.

**Лунінецкая памяць. Дадатак 5**: Кнігі і лёсы: пятая і шостая літаратурна-краязнаўчыя і навукова-практычныя канферэнцыі памяці пісьменніка-земляка Мікалая Калінковіча / запіс успамінаў, рэдагаванне і ўкладанне Таццяны Канапацкай. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013. — 288 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-7025-15-2.

**Островецкий район** / [Островецкий районный исполнительный комитет; фото: С. М. Плыткевич, В. С. Базан, Н. И. Пометько; текст: А. Г. Варавва, А. Е. Климченя, Е. Л. Ленкевич]. — Минск: Рифтур Принт, 2013. — 28 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1000 экз.

**Островецкий район** / [фото: С. М. Плыткевич, В. С. Базан, Н. И. Пометько; текст: А. Г. Варавва, А. Е. Климчёня, Е. Л. Ленкевич]. — Минск: Рифтур, 2013. — 28 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз.

**Чашниччина**: [Чашникский районный исполнительный комитет / фото: С. Лебедев]. — [Витебск: Витебская областная типография], 2013. — 22 с. — 300 экз.

### Геаграфія

**Драбо, В. Н.** Переход в другое измерение: [по следам белорусских путешественников] / Владимир Драбо. — Минск: Белпринт, 2013. — 229 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-459-277-0 (в пер.).

**Тишкова, Л. А.** Административная география: учебно-методическое пособие для учащихся и преподавателей учреждений образования, реализующих образовательные программы профессионально-технического и среднего специального образования по специальности «Почтовая связь» / Л. А. Тишкова, Л. П. Томилина. — Минск: РИПО, 2013. — 153 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-503-305-0.

### Гісторыя

**Географический указатель к похозяйственным книгам**: в 3 ч. / Зональный государственный архив в г. Глубокое; [составители: Н. А. Боровик и др.; редколлегия: О. В. Пашкевич, С. В. Рублевский]. — Минск: Медисонт, 2013. — 20 экз. — ISBN 978-985-6982-98-2.

Ч. 1: Список населенных пунктов Глубокского, Дуниловичского, Плисского, Поставского районов (1944–2006 гг.). — 421 с. — ISBN 978-985-6982-99-9.

Ч. 2: Список населенных пунктов Бегомльского, Браславского, Видзовского, Докшицкого районов (1944–2006 гг.). — 408 с. — ISBN 978-985-7085-01-9.

Ч. 3: Список населенных пунктов Дисненского, Миорского, Шарковщинского районов (1944–2006 гг.). — 390 с. — ISBN 978-985-7085-02-6.

**Самахвалаў, Д. С.** Гісторыя гістарычнай думкі: курс лекцый / Д. С. Самахвалаў; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: БДУ, 2013. — 130 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-807-1.

**Ходзін, С. М.** Крыніцазнаўства гісторыі Беларусі: дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-21 03 01 «Гісторыя (па напрамках)» / С. М. Ходзін. — Мінск: БДУ, 2012. — 254 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-760-9 (у пер.).

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Шупляк, П. А.** Гісторыя навейшага часу: вучэбна-метадычны дапаможнік для студэнтаў, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-21 03 01 «Гісторыя (па напрамках)»: у 2 ч. / П. А. Шупляк, С. І. Комар. — Мінск: БДУ, 2013– — ISBN 978-985-518-878-1 (у пер.).

Ч. 1: 1918–1945 гг. — 2013. — 175 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-879-8.

### Гісторыя замежных краін

**Духовный подарок миру**: материалы презентации книги Хамрохона Зарифи «Золотая сокровищница таджиков» (г. Минск, 12 июня 2013 г.) / Посольство Республики Таджикистан в Республике Беларусь; [составитель Елена Хомченко; под общей редакцией Козидавлата Коимдодова]. — Минск: Кнігазбор, 2013. — 64 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-7057-87-0.

**Літоўская палітычная думка**: канец XIX — пачатакXX ст.: анталогія / [ідэя, канцэпцыя і укладанне: Андрэй Казакевіч; навуковы рэдактар: Томаш Блашчак]. — Мінск: Медисонт, 2013. — 319 с. — Змяшчае аўтараў: Басанавічус Ё., Блашчак Т., Валанчэўскі М., Вілейшыс П., Дамбраўскас-Якштас А., Доўкантас С., Кудзірка В., Татарайціс Ё., Тумас Ю., Шлюпас Ё. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-96-8.

**Фрольцов, В. В.** Постсоветские государства во внешней политике ФРГ (1991–2005) / В. В. Фрольцов; Белорусский государственный университет. — Минск: БГУ, 2013. — 430 с.— 100 экз. — ISBN 978-985-518-811-8 (в пер.).

**Царюк, Н. А.** Новейшая история западных славян: пособие для студентов, обучающихся по специальности 1-21 03 01 «История (по направлениям)» / Н. А. Царюк. — Минск: БГУ, 2012. — 263 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-794-4.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Кебич, В. Ф.** Беловежский гамбит / Вячеслав Кебич. — Минск: Торгово-финансовый союз «БТФС», 2013. — 334 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-90248-2-5 (в пер.).

**Кортеж российской власти. IX–XXI века**: биографический справочник: пособие для студентов, обучающихся по специальности 1-21 03 01 «История (по направлениям)»: в 3 ч. / [составители: О. А. Яновский и др.]; под редакцией О. А. Яновского. — Минск: РИВШ, 2013– — ISBN 978-985-500-664-1.

Ч. 1. — 2013. — 399 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-500-639-9.

**Память и имя. Синкевичи**/ составитель Дмитрий Широчин. — Минск: Парадокс, 2013. — 175 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-451-303-4 (в пер.).

### Гісторыя Беларусі

**Баркалабаўскі летапіс**/ Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя ім. Петруся Броўкі», Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі; [рэдакцыйны савет: А. А. Тозік і інш.; апрацоўка і ўзнаўленне тэксту летапісу: І. У. Будзько і інш.; аўтар уступнага артыкула А. А. Суша]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 606 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-11-0733-5 (у пер.).

**Баркалабаўскі летапіс**/ [рэдакцыйны савет:А. А. Тозік і інш.]. — Факсімільнае выд. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 351 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-11-0732-8 (у пер.).

**Государственные границы Беларуси**: сборник документов и материалов: в 2 т. / [составители:В. Е. Снапковский и др.]. — Минск: БГУ, 2012– — ISBN 978-985-518-755-5.

Т. 1: (март 1917 – ноябрь 1926). — 2012. — 493 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-713-5.

**Жижиян, С. Ф.** 101 занимательный факт из истории Быховщины / Сергей Жижиян. — Могилев: АмелияПринт, 2013. — 84 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6891-27-7.

**Загорульский, Э. М.** Славяне: происхождение и расселение на территории Беларуси / Э. М. Загорульский. — Минск: БГУ, 2012. — 366 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-518-772-2 (в пер.).

**Корбут, В. А.** Минск. Лучший вид на этот город / Виктор Корбут. — Минск: Звязда, 2013. — 261 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7059-52-2 (в пер.).

**Лякин, В. А.** Белорусские солдаты Наполеона: хроника походов и сражений / В. А. Лякин. — Мозырь:Белый Ветер, 2013. — 238 с. — 113 экз. — ISBN:978-985-542-306-6 (в пер.).

**Ляховичи. Из прошлого в будущее** / [автор концепции и текста А. М. Суворов; фото: В. В. Байковский и др.]. — Брест: Полиграфика, 2013. — 175 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-6970-62-0.

**Сташкевич, Н. С.** Проблемы формирования белорусской государственности в XX — начале XXI века: избранные труды Н. С. Сташкевича / [редколлегия: А. Н. Данилов и др.]. — Минск: РИВШ, 2012. — 285 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-500-588-0 (ошибоч.).



***Матвейчык, Д. Ч. Паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў / Дзмітрый Матвейчык. — Мінск: Медысонт, 2013. — 121 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6982-95-1.***

*Нам здаецца, што пра паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага мы ведаем шмат. Выдадзена досыць навуковых, мастацкіх і публіцыстычных кніг, прысвечаных як асобе кіраўніка паўстання, так і яго наступствам. Але ці многа мы ведаем пра сам ход баявых дзеянняў у 1883 — 1884 гадах? Ці назавём адразу даследаванне, дзе можна прачытаць пра асобныя атрады паўстанцаў? Цяпер назавём. Гэта кніга кандыдата гістарычных навук Дзмітрыя Матвейчыка. Адметнасць выдання ў тым, што яго аўтар звяртае ўвагу менавіта на ваенны аспект гэтай вялікай палітычнай падзеі, вызначае лакалізацыю баёў і наступствы кожнага з іх.*



***Трафимова, Г. В. Малышам о чудо-липучках: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — 3-е изд., стереотипное. — Минск: Народная асвета, 2013. — 31 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2095-7.***

*Серыя цікавых і карысных расповедаў Дзядулі Прыродазнаўцы працягваецца. Гэтым разам ён распавядзе дзеткам пра чароўныя ліпучкі, што існуюць у прыродзе. Маленькія чытачы даведаюцца, якога колеру «птушыны клей», чаму ў дождж мурашнік застаецца сухім, навошта смолцы ліпкая «кашуля». І пра многае іншае. Як заўсёды, у кнізе змешчаны заданні, што ператвараюць чытанне ў гульню і дапамагаюць маленькім чытачам запомніць цікавыя факты.*

**Цуба, М. В.** Жыццё і подзвіг братоў Цубаў / М. В. Цуба. — Пінск: ПалесДУ, 2013. — 71 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-516-227-9.

**Чалавек і свет. Мая Радзіма – Беларусь**: 4-ты клас: рабочы сшытак: [з тэматычнымі наклейкамі]: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / [укладальнік М. Ю. Дуда]. — 6-е выд. — Мінск: Кузьма, 2013. — 32 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-453-748-1.

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Антипенко, О. В.** Денежная азбука: [для младшего и среднего школьного возраста / Ольга Антипенко]. — Минск: БелКП-ПРЕСС, 2013. — 64 с. — 11500 экз. — ISBN 978-985-90271-3-0.

**Божий мир вокруг нас**: книжка-раскраска для детей и родителей / [составитель А. А. Зенькович]. — Минск: Межконфессиональное христианское религиозное братство «Библейское общество в Республике Беларусь», 2013. — 56 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6183-06-8. — ISBN 978-9-8561-8306-8 (ошибоч.).

**Вершаваная энцыклапедыя жывёльнага свету**: [для дзяцей / укладальнік, аўтар канцэпцыі і тэксту Аксана Спрынчан; ілюстрацыі Веранікі Шніп]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 389 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1248-1 (у пер.).

**Изучаем Беларусь**: статистика для школьников / Национальный статистический комитет Республики Беларусь; [редколлегия: И. А. Костевич (главный редактор) и др.]. — Минск: Пачатковая школа, 2013. — 142 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-565-037-0 (в пер.).

**Котов, А. И.** История Беларуси и мировые цивилизации = The history of Belarus and the world civilizations: [для школьников старших классов: перевод с белорусского] / Альберт Котов. — Минск: Энциклопедикс, 2013. — 239 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-73-4.

**Легенды о полевых цветах**: [для младшего школьного возраста / составитель А. А. Статкевич]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 15 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-11-0671-0.

**Молитвослов для детей** / [составитель Велько Александр Владимирович; художники: Ю. Е. Кубарев, С. К. Витецкая]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 24 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-575-6.

**Рогаль, И. М.** Мироустройство: (книга для подростков) / Иосиф Рогаль. — Брест: Альтернатива, 2013. — 79 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-521-369-8.

**Самые первые в мире**: [для младшего и среднего школьного возраста / художник Олег Гончаров; редактор-составитель Анастасия Филиппова]. — Минск: Сибилина, 2013. — 41 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7022-67-0 (в пер.).

**101 профессия**: [для младшего и среднего школьного возраста / художник Мария Козлова; редактор-составитель Вероника Франгу]. — Минск: Сибилина, 2013. — 32 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7022-65-6 (в пер.).

**Трафимова, Г. В.** Да здравствует солнце!: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Народная асвета, 2013. — 79 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2051-3.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

### Англійская літаратура

**Гордон, Р.** Низвержение: [роман] / Родерик Гордон, Брайан Уильямс; [перевод с английского Е. Д. Ряхиной]. — Москва: АСТ, 2013. — 444 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-078799-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2101-9 (Харвест) (в пер.).

**Джеймс, Ф. Д.** Невинная кровь: [роман] / Ф. Д. Джеймс; [перевод с английского Ю. Моисеенко]. — Москва: АСТ, 2014. — 382 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079024-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2416-4 (Харвест) (в пер.).

**Моэм, С.** Луна и грош = The Moon and sixpence: [роман] / Сомерсет Моэм; [перевод с английского Н. Ман]. — Москва: АСТ, 2013. — 249 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081304-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2417-1 (Харвест) (в пер.).

**Моэм, С.** Узорный покров = The painted veil: [роман] / Сомерсет Моэм; [перевод с английского М. Лорие]. — Москва: АСТ, 2013. — 253 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081073-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2419-5 (Харвест) (в пер.).

**Невилл, М.** Рассудку вопреки: роман / Миранда Невилл; [перевод с английского Т. Дмитриевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-080910-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2400-3 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Властелин Колец: [трилогия] / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского В. Муравьева, А. Кистяковского]. — Москва: АСТ, 2013. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск).

Т. 1: Хранители кольца. — 574 с. — 3000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-078696-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1698-5 (Харвест).

Т. 2: Две твердыни. — 471 с. — 4000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-078923-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1699-2 (Харвест).

Т. 3: Возвращение короля. — 439 с. — 4000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-17-078922-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1697-8 (Харвест).

### Бразільская літаратура на партугальскай мове

**Коэльо, П.** Ведьма с Портобелло / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-052076-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2383-9 (Харвест).

**Коэльо, П.** Победитель остается один: [роман] / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ, 2013. — 445 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-059006-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2316-7 (Харвест).

### Руская літаратура

**Бердников, И. В.** Вояж проходимца: [фантастический роман] / Илья Бердников. — Москва: АСТ, 2013. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-080201-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2393-8 (Харвест) (в пер.).

**Вильмонт, Е. Н.** Шалый малый / Екатерина Вильмонт; [стихи Б. А. Абарова]. — Москва: АСТ, 2013. — 319 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-081221-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2347-1 (Харвест) (в пер.).

**Вин, А.** Игры для взрослых мальчиков / Александр Вин. — Минск: Букмастер, 2014. — 441 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-554-4 (в пер.).

**Вороной, О. Н.** Под знаком тигра / Олег Вороной; [рисунки: Михаил Рыдванский]. — Москва: АСТ, 2013. — 219 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079805-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2399-0 (Харвест) (в пер.).

**Колина, Е.** Предпоследняя правда: [семейная сага] / Елена Колина. — Москва: АСТ, 2013. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078336-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2441-6 (Харвест) (в пер.).

**Кремль 2222. Легенды выживших**: сборник фантастических рассказов. — Москва: АСТ, 2013. — 444 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Алексеев Д., Алтамиров Ш., Выставной В., Григорьев Е., Гурьева И., Круглов Ю., Куликов Р., Манасыпов Д., Мельников Р., Мухин М., Силлов Д., Тихонов А., Филоненко В., Щукин И. — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078454-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2395-2 (Харвест) (в пер.).

**Лабин, А.** Черные сны / Андрей Лабин. — Минск: Букмастер, 2014. — 381 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-549-771-5 (в пер.).

**Литературный альманах** = Літаратурны альманах / Постоянный Комитет Союзного государства. — Минск: Звязда, 2013–

Вып. 1. — 2013. — 335 с. — Параллельно на русском и белорусском языках. — Содержит авторов: Андреев Н., Белоножко А., Вашкевич Д., Каткова М. (псевдоним – Маргарита Урчева), Лагодин С., Латышкевич М., Москвин А., Трофимова Т., Фомин Г., Черкас О. — Содержит переводчиков: Андреев Н., Белоножко А., Вашкевич Д., Латышкевич М., Сивец Т. — 2018 экз.

**Переверзин, И. И.** Северный гром: [книга стихов] / Иван Переверзин; [автор предисловия Валентин Устинов]. — Минск: Харвест, 2013. — 351 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-2456-0 (в пер.).

**Струк, А. В.** Ржунимагу в самом нужном месте / [Струк Александра Васильевна]. — Москва: АСТ, 2013. — 287 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-078894-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2323-5 (Харвест).

**Улицкая, Л. Е.** Зеленый шатер: роман: (в новой редакции) / Людмила Улицкая. — Москва: АСТ, 2013. — 637 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081055-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-0588-0 (Харвест) (в пер.).

**Чистов, О.** Вернуться домой / Олег Чистов. — Минск: Букмастер, 2014. — 252 с. — 2250 экз. — ISBN 978-985-549-595-7 (в пер.).

**Чистов, О.** Немного удачи / Олег Чистов. — Минск: Букмастер, 2014. — 219 с. — 2250 экз. — ISBN 978-985-549-596-4 (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Авласенко, Г. П.** История вместо математики: мистический триллер / Геннадий Авласенко. — Минск: Мастацкая літаратура, 2013. — 284 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1449-2.

**Артюхова, Л. С.** Я у мамы прошу прощения...: от прозы – к поэзии, с песней / Любовь Артюхова. — Минск: Ковчег, 2013. — 190 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7055-49-4.

**Богданова, Л.** Незаконченный этюд в полутонах: [рассказы] / Лина Богданова. — Минск: Беларусь, 2013. — 284 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-01-1042-8.

**Болдовский, Н. Я.** Со мной и во мне...: [стихи и проза] / Николай Болдовский. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 191 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-534-039-4 (ошибоч.).

**Волков, Л. Н.** В соавторстве с Логосом: [книга духовной поэзии] / Леонид Волков. — Минск: Литературный свет, 2013. — 81 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6943-21-1.

**Глазов, В. И.** Время собственное: сборник поэзии / Владимир Глазов. — Брест: Альтернатива, 2013. — 175 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-521-376-6.

**Горень-Имбро, Т. В.** Ностальгия: [стихи] / Горень-Имбро Т. В. — Минск: Ковчег, 2013. — 97 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7055-73-9.

**Дейкун, Р. В.** Картошка – хлебу и... любви присошка: книга прозы / Раиса Дейкун. — Гомель: Барк, 2013. — 179 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7065-06-6 (в пер.).

**Денисова, И. В.** Две повести о любви / Ирина Денисова. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2013. — 159 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7020-15-7 (в пер.).

**Доморенок, И. В.** Избранное: [стихи] / Ирина Доморенок. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 94 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-35-5 (в пер.).



***Гарнуся душою да слова: зборнік украінскай паэзіі / пераклады Ніны Мацяш; [укладальнікі: М. І. Новік, С. А. Варонік, Г. В. Скарына]. — Мінск: Звязда, 2013. — 293 с. — Змяшчае аўтараў: Барна В., Гаўрылюк А., Горык Н., Гэй В., Кавалёва А., Кастэнка Л., Львовіч М., Мах П., Украінка Л., Шаўчэнка Т. — 600 экз. — ISBN 978-985-7059-64-5 (у пер.).***

*Многія сучасныя ўкраінскія паэты адзначаюць, што з усіх перакладаў іх вершаў на беларускую мову ім найбольш даспадобы перастварэнні Ніны Мацяш. Таму, думаецца, гэтая кніга зацікавіць не толькі аматараў украінскай паэзіі, прыхільнікаў творчасці беларускай аўтаркі, але і літаратурных перакладчыкаў. Выданне дапаможа вызначыць мастацкія падыходы да перакладу паэзіі, а таксама дасць магчымасць пачуць адметны паэтычны голас Ніны Мацяш, хай толькі як водгулле ў вершах украінскіх майстроў слова.*

**Жуковская, Ю. С.** Пламенные грезы: [книга стихов] / Юлия Жуковская. — Минск: Энциклопедикс, 2013. — 35 с. — Часть текста на английском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-6958-69-7.

**Зен, К.** Время до после: [роман] / Катрин Зен. — Минск: Смэлток, 2013. — 188 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6998-27-3.

**Иванов, М. Л.** Необычные истории из обычной жизни: записки доктора / Матвей Иванов. — Минск: Врата, 2013. — 143 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6912-10-1.

**Клионский, Б. М.** И оживут воспоминанья...: избранные стихи, 1953–2005 гг. / Борис Клионский; [автор предисловия Давид Симанович]. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 135 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-534-045-5 (ошибоч.).

**Круглик, Л. В.** Осенняя рапсодия: сборник стихов / Людмила Круглик; [автор предисловия Елена Стельмах]. — Минск: Печенко А. Г., 2013. — 139 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-36-0.

**Леви, В. А.** Янтарный кулон: рассказы, повести, стихи / Валентина Леви. — Борисов: Борисовская укрупненная типография, 2013. — 264 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-90304-4-4.

**Нестерович, Т. И.** Загадки ведуньи: [роман] / Тамара Нестерович. — Минск: Беларусь, 2013. — 270 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-01-1047-3.

**Петров, С. П.** С улыбкой, между делом...: жизнь в коротких строчках / Сергей Петров. — Минск: Ковчег, 2013. — 154 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7055-72-2 (в пер.).

**Петрухин, А. П.** О целебных свойствах растений в стихах: знакомые растения глазами медика: [поэтический сборник] / А. П. Петрухин. — Минск: БГАТУ, 2013. — 182 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-609-0.

**Русак, З. П.** Бабье лето: лирика / Зинаида Русак. — Слоним: Слонимская типография, 2013. — 175 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-7027-10-1.

**Русакович, Н. В.** «Над вымыслом слезами обольюсь...»: творческая исповедь / Нина Русакович. — Минск: Ковчег, 2013. — 284 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7055-58-6.

**Семашко, О. Н.** Розыгрыши и анекдоты / Олег Семашко. — Минск: Змицер Колас, 2013. — 109 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6992-32-5.

# Мой Маркес



Кажуць, што няма пракокаў у Айчыне сваёй, што прайшоў той час, калі голасам нацыі былі пісьменнікі, якія ў сваіх выдатных творах не толькі выказвалі агульныя для ўсяго народа ідэі, але і праграмавалі будучыню краіны. Кажуць, што кіраўнікам дзяржаў сёння літаратура ніяк не дапаможа ў штодзённай працы, з-за «класічнасці» свайго зместу не падкажа рашэння надзённых пытанняў. Але гэта не зусім так. Прыклад Габрыэля Гарсія Маркеса, пісьменніка з сусветным іменем, нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры даказаў усяму свету адваротнае. Сваім жыццём, творчасцю, а цяпер ужо і смерцю.

Жалобная цырымонія развітання з пісьменнікам прайшла ў панядзелак у Мехіка. Адметна, што яе ўзначалілі мексіканскі прэзідэнт Энрыке Пенья Ніета разам з яго калумбійскім калегам Хуанам Мануэлем Сантасам. Варта задумацца: прэзідэнты дзвюх дзяржаў падчас жалобнай цырымоніі аддалі даніну павагі, памяці, выказалі словы любові да творчасці пісьменніка, суайчынніка. Больш за тое, у сваіх выступленнях яны падкрэслівалі значнасць твораў Маркеса для развіцця калумбійскага, мексіканскага народаў, Лацінскай Амерыкі ў цэлым.

Выдатны празаік, філосаф, Габрыэль Гарсія Маркес пакінуў нам багатую спадчыну. Мы развіталіся з чалавекам, які хадзіў па гэтай зямлі, але яго творы застануцца з намі назаўсёды. Нездарма ж кажуць: творцы не паміраюць, пакуль іх кнігі чытаюцца і перачытваюцца. Усцешвае тое, што на паліцах нашых кнігарняў мы можам пабачыць пераклады абсалютна ўсіх выдадзеных раманаў, аповесцей, апавяданняў і публіцыстыкі Майстра. Шматгадовы канфлікт з перадачай правоў на пераклад і публікацыю кніг самага вядомага аўтара Лацінскай Амерыкі вырашыўся станоўчым чынам, сёння яны належаць выдавецтву «АСТ», а ў Беларусі гэтыя выданні выходзяць пры падтрымцы ТАА «Харвест».

У межах адной невялічкай публікацыі немагчыма распавесці пра ўсе любімыя кнігі, напісаныя гэтым выдатным калумбійцам, таму абмяжуюся толькі згадкай дзвюх самых-самых яркіх і адметных менавіта для мяне. Падкрэслю, што культавы раман «Сто год адзіноты» я таксама люблю, думаю, у гэтым са мной пагодзяцца многія чытачы. Але пра яго ўжо столькі напісана! Столькі сказана! Ён выклікае столькі яркіх пачуццяў і эмоцый, што ўрэшце, згадаўшы іх, зноў вазьму ў рукі свой зялёненькі асобнік гэтай кнігі… А ўражанні ад кніг, пра якія збіраюся распавесці, яшчэ свежыя, бо ў рускамоўным перакладзе яны пабачылі свет адносна нядаўна.




> **Неяк я спрачаўся з прафесарамі літаратуры на Кубе. Яны казалі: «“Сто гадоў адзіноты” — незвычайная кніга, але яна не прапаноўвае рашэння». Для мяне гэта догма. Мае кнігі апісваюць сітуацыі, яны не павінны прапаноўваць рашэнняў. Мая задача — каб мяне любілі, таму я і пішу. Я вельмі баюся, што хтосьці мяне не любіць…**
>
> З інтэрв'ю часопісу *Esquire*

## «ЖЫЦЬ, КАБ РАСПАВЯДАЦЬ ПРА ЖЫЦЦЁ»

Гэта не проста мемуары, гэта сапраўдная падзея ў свеце літаратуры, асобна ўзятага чытача і нават цэлай краіны. І справа не толькі ў тым, што гэта першы твор Маркеса, напісаны пасля 1973 года, які быў легальна выдадзены ў Расіі (дагэтуль у СССР дзейнічаў закон, што прадугледжваў свабодны выпуск усіх твораў, напісаных да 1973-га), але і ў падыходзе аўтара да ўласных мемуараў. Як іх пісаць? Кіравацца толькі сапраўдным ходам падзей і распавядаць пра тое, што мела месца ў рэчаіснасці? Ці, спасылаючыся на кепскую памяць, прыдумляць усё, што заўгодна, і выдаваць за праўду?

Здаецца, што адказ схаваны ўжо за першымі словамі кнігі, дакладней, эпіграфам да яе: «Жыццё — гэта не толькі тое, што чалавек пражыў, але і тое, што ён памятае, і тое, што пра гэта распавядае». Пагадзіцеся, надзвычай зручная пазіцыя: што б ты ні сказаў, што б ні напісаў — гэта тваё жыццё, ужо толькі таму, што сюжэт, героі і падзеі існуюць у тваёй свядомасці. Ды калі станавіцца на бок чытача, яму таксама важная не праўдзівасць і храналагічная паслядоўнасць выкладання фактаў, але перадусім — добры тэкст, які захоплівае з першых жа радкоў, і шчыры, даверлівы голас аўтара, што гучыць са старонак.

А голасу Маркеса нельга не паверыць. Ён, як сябар, распавядаючы пра сябе, прыслухоўваецца і да меркавання суразмоўцы-чытача, нейкім магічным чынам паглынаючы яго думкі. Дарэчы, магіі ў кнізе таксама дастакова, і будзённыя падзеі надта ж часта пераходзяць мяжу рэчаіснасці, застаючыся і рэальнымі, і магічнымі адначасова. Да прыкладу, як вам вобраз папугая, які прадказвае ўварванне дзікага быка ў дом сям'і Маркесаў? Ці момант, калі аўтару ў люстэрку замест свайго бачыцца твар памерлага сенатара? Ды ёсць у расповедзе аспекты, у рэальнасці якіх нават і не выпадае сумнявацца: палітычныя крызісы, кровапралітныя войны, журналістыка, літаратура, п'янкі, жабрацтва, першая слава. Менавіта яны складаюць асноўную канву сюжэта і прымушаюць задумацца: а можа, у пісьменніка не такая ўжо кепская памяць, як ён удае? У такім выпадку магчыма і астатняе — таксама праўда яго жыцця?

## «ДВАНАЦЦАЦЬ АПАВЯДАННЯЎ-ПАДАРОЖНІКАЎ»

Прызнаюся, да знаёмства з гэтай кнігай я досыць насцярожана ставілася да кароткай прозы. І калі лірычныя мініяцюры яшчэ неяк чытала і разумела, то пры знаёмстве з апавяданнямі мне было вельмі крыўдна. І за сябе, і за астатніх чытачоў. Здаецца, ты толькі пазнаёміўся з героямі, даведаўся пра нейкія факты з іх жыцця, пачаў камусьці спачуваць… і апавяданне заканчваецца на самым цікавым месцы. Што далей?

Але кароткія апавяданні Маркеса мяне ўразілі настолькі, што я, не спыняючыся, літаральна праглынала адзін расповед за другім. Іх дзеянні адбываюцца ў розных гарадах — Барселоне, Жэневе, Рыме, Парыжы. Калісьці Маркес бываў там і ў гэтых кароткіх тэкстах паказаў іх такімі, якімі памятаў. Пазней вырашыў вярнуцца ў гэтыя ж мясціны і параўнаць адчуванні.

Апынулася, што гарады, у якіх адбываюцца дзеянні апавяданняў, за такі доўгі час сталі цалкам нерэальнымі і фантастычнымі. Іх больш не існавала ў ранейшым выглядзе. Але менавіта гэтая акалічнасць і дадала тэкстам асаблівага прыцягнення, дзіўнага настрою — зрабіла малюнак выпуклым, дапоўніўшы яго новым часавым вымярэннем.

Асаблівай увагі заслугоўваюць героі расповедаў. Яны таксама незвычайныя. Да прыкладу, маладая, вельмі прыгожая дзяўчына памірае, усяго толькі крыху параніўшыся шыпом ружы. Дзеці, якія плаваюць па кватэры на лодцы, — у струменях святла. Загадкавая жанчына, якая «наймалася бачыць сны» і тлумачыць іх зранку на галодны страўнік...

Амаль усе апавяданні, хоць і пісаліся вельмі доўга, шмат разоў перараблялі і аказваліся страчанымі, згубленымі, былі скончаны пісьменнікам фактычна аднчасова. Паводле задумы, яны павінны не глядзецца як зборнік, а ўспрымацца ў якасці цэласнай кнігі, паступова «перацякаючы» адно ў адно і пакідаючы аднолькавае ўражанне. Па сутнасці, так і атрымалася. Гэта ж Маркес!




На шчасце, паліца кніг Габрыэля Гарсія Маркеса досыць багатая на раманы, аповесці, апавяданні… Знаёміцца з яго творчасцю можна бясконца доўга. А можна ўвесь час перачытваць любімыя кнігі гэтага аўтара і адчуваць: ён свой, ён побач.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Сіла — у адзінстве

Сёння неабходна быць у трэндзе, вырабляць выключна крэатыў, а таксама з'яўляцца адэптам «секты матываваных». У гэты шэраг варта дадаць неўтаймоўнае жаданне ўсіх і кожнага звацца экспертамі. Не будзем паддавацца ўплыву большасці, а проста паразважаем, без прэтэнзій на ісціну ў апошняй інстанцыі.

Адносна нядаўна тэндэнцыяй кніжнага свету была ўпэўненая заваёва кнігагандлёвай прасторы буйнымі сеткамі. Літаральна ўсе прафесійныя выданні ў адзін голас прадказвалі гібель незалежных кнігарняў. Вам гэта нічога не нагадвае? Прыкладна такое ж становішча складваецца з кнігай у цэлым.

Вернемся пакуль да ўтульных кніжных лавак. Дарэчы, «лаўка» па-французску — гэта *boutique*. Так што пацвярджэнне эксклюзіўнасці дадзенага віду гандлю цалкам адпавядае духу часу. Пакуль яшчэ рана казаць пра перавагу сіл у барацьбе. Усё часцей можна пачуць меркаванні пра тое, што сетак «наеліся», бо яны не задавальняюць сапраўдных бібліяманаў. Яшчэ чатыры гады таму прэзідэнт Амерыканскага саюза кнігагандляроў Орэн Тайхер у сваім інтэрв'ю прадказваў: «Паступова сярод спажыўцоў назапашваецца раздражненне з-за аднастайнасці асартыменту сеткавых кнігарняў і індыферэнтнасці іх персаналу. Узрастае патрэба ў кампетэнтных рэкамендацыях і індывідуальным падыходзе да наведвальнікаў».

І кампетэнтнасці, і душэўнасці, і неардынарнасці — усяго гэтага хапае ў незалежнага кнігагандляра. Дык што ж перашкаджае яму канчаткова перамагчы? Перафразіраваўшы ката Матроскіна, можна адказаць так: розум у нас ёсць, нам сродкаў не хапае. Ва ўсім свеце кнігагандляры спаборнічаюць, як могуць. У Нідэрландах ёсць крама *Selexyz Dominicanen*, размешчаная ў гатычным касцёле XIII стагоддзя. А парыжская кнігарня *Shakespeare & Company* за дзесяцігоддзі свайго існавання стварыла сабе такую моцную рэпутацыю інтэлектуальнай вотчыны, што атрымлівае дывідэнды толькі ад іміджу.

А што рабіць тым, у чыіх руках няма такіх козыраў? Тут, як кажуць, у адзінстве сіла. Да прыкладу, усё больш незалежных кнігагандляроў ЗША ўдзельнічаюць у рэгіянальных рухах *Buy Local*. Ствараецца ўмоўнае аб'яднанне гандляроў аднаго раёна. Кожны з іх з'яўляецца своеасаблівай рэкламай іншага, па метадзе «сарафаннага радыё». Вы зайшлі ў краму і набылі кулінарную кнігу? Вам з задавальненнем параяць зайсці ў бліжэйшую мясную лаўку, каб набыць там ялавічыну для прыгатавання стэйка на абед. А ў кнігарню вы трапілі, выпіўшы кубачак гарбаты ў кавярні за вуглом. Усмешлівая афіцыянтка сказала, што побач ёсць выдатная кніжная крама, дзе можна набыць кнігу, каб замацаваць добры настрой гэтай раніцы.

Вось так і рэалізуецца папулярны сёння метад агрэсіўнага маркетынгу, калі хоцькі-няхоцькі вы апынаецеся ўцягнутымі ў таваразварот і проста не можаце не здзейсніць пакупку. Падобны прынцып выкарыстоўваюць і тыя, хто вырашыў адкрыць культурны цэнтр. Возьмем, напрыклад, «*Аптэку Бартмінскага*» ў Пярмі. Пад адным дахам сабраліся неардынарныя маладыя людзі, якія прапаноўваюць і кнігарню з няпростым асартыментам, і кавярню, дзе няма надакучлівых сушы і «цэзараў», а ёсць шмат рэдкіх і незвычайных страў, і краму, дзе прадаюцца вінілавыя пласцінкі, і магазін вінтажных упрыгожанняў, і шмат іншых «і». Няўзброеным вокам бачная як выгада ў арэндзе, так і манеўранасць у прыцягненні пакупнікоў!

Калі выдаўцы ратуюцца лічбавым фарматам, то кнігагандлярам застаецца толькі жангліраваць метадамі. Галоўнае, каб кніга заўжды заставалася з намі.



## *Маладзічок*

# Васілька



Археалогія традыцыйна ўспрымаецца як вельмі рамантычная навука. У пэўным сэнсе гэта так і ёсць, бо хто яшчэ акрамя археолага можа зазіраць у мінулае. Але падчас працы археолагі звычайна знаходзяць толькі розныя сведчанні чалавечай жыццядзейнасці: фрагменты гаршкоў, кавалкі розных прылад працы і побыту. Гэтыя прадметы часта называюць маўклівымі сведкамі мінуўшчыны. А ўжо з цягам часу шмат хто з калег спрабуе зрабіць так, каб маўклівыя сведкі пачалі размаўляць, каб распавялі пра сваіх гаспадароў, чые побыт і заняткі, нават думкі і мары, з'яўляюцца асноўнай мэтай працы археолага. Так сталася і з аўтарам гэтай аповесці, дакладней, пачатку аповесці. У нейкі момант мне захацелася пераўвасобіць свае навуковыя веды ў нешта больш цікавае і жывое. З'явілася ідэя распавесці пра хлопчыка Васільку, які жыў у пачатку XI стагоддзя, пра яго сям'ю, родны горад і наваколле. Спадзяюся, што атрымалася. Вырашаць, наколькі ўдала, пакідаю чытачам. А найбольш цікавымі будуць меркаванні тых, каго я лічу галоўнымі чытачамі гэтай аповесці, — такіх жа хлопчыкаў і дзяўчынак, як мой Васілька, якія адрозніваюцца ад яго толькі тым, што жывуць у пачатку XXI стагоддзя.

**Археолаг, кандыдат гістарычных навук**
**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

### ВЯСНА

Васілька сядзеў на самай вяршыні стромкага вала, прытуліўшыся спінаю да таўшчэзных бярвенняў гарадской сцяны. Хлопчык майстраваў новым, вельмі вострым ножыкам, які яму толькі пазаўчора падарыў бацька, дудачку з трыснягу. Яркае сонейка зззяла ў бясхмарным небе. Ужо колькі дзён стаяла цёплае надвор'е, зямля зусім прачнулася пасля доўгае зімы, прагрэлася і пакрылася маладой, густой і сакавітай травой, а дрэвы апрануліся ў новае лісце і вось-вось мусілі пайсці рознакаляровую квеценню.

Васілька дарабіў апошнюю адтуліну ў сваёй дудачцы і паспрабаваў зайграць. Мелодыя выйшла не надта гучнай, але хлопчык быў вельмі задаволены тым, што ў яго ўсё атрымалася. Ён сядзеў, грэўся на сонейку, граў на сваёй дудачцы, глядзеў на бязмежнае, зіхоткае пад сонечнымі праменямі возера.

Васілька радаваўся вясне. Гэта была ўжо яго дзясятая вясна. Летам яму шмат чаму давядзецца навучыцца, стаць яшчэ спрытнейшым і мацнейшым. Хаця Васілька і так ужо самы моцны сярод сваіх аднагодкаў, і ніхто не наважваецца з яго кпіць ці прыдумляць яму нейкія мянушкі. Але гэта і не дзіва, бо васількаў бацька не нейкі там селянін ці рамеснік, а дружыннік. А таму Васілька, у той час калі астатнія хлопцы і дзяўчаты пасвяць кароў, працуюць у полі ці яшчэ чым дапамагаюць бацькам па гаспадарцы, вучыцца трымаць у руках меч ці кап'ё, страляе з лука ці проста робіць фізічныя практыкаванні.

Яшчэ год таму Васілька вучыўся біцца з іншымі сынамі дружыннікаў, такога ж, як ён, узросту, толькі на драўляных мячах. І хоць меч у яго быў вельмі добры і трывалы, а на клінку хлопец сам выразаў знакі, такія ж, як на сапраўдных мячах, гэта ўсё ж была толькі цацка. Але некалькі месяцаў таму бацька ўпершыню дазволіў Васільку ўзяць у рукі сапраўдны меч, прычым, не абы-які, а яго ўласны. А меч у Васількава бацькі проста дзівосны, прывезены з нейкай далёкай краіны, што ляжыць за неабсяжным морам, у якое ўпадае магутная Дзвіна. Яго рукаяць аж зіхацідь ад срэбра і медзі. На клінку часам бачныя нейкія таямнічыя знакі, а часам іх амаль немагчыма разгледзець. Васілька зусім не мог зразумець, як такое можа быць, але калі бацька дазволіў яму ўпершыню самому ўзяць у рукі гэты меч, хлопчык быў настолькі шчаслівы, што забыўся на свае пытанні.

Меч быў цяжкі, і спачатку ў Васількі не выходзіла доўга трымаць яго, тым больш наносіць нейкія ўдары. Але дзень пры дні ў яго атрымлівалася ўсё лепш, і ён сам адчуваў, як мацнеюць рукі і наколькі спрытнейшым ён становіцца. Цяпер Васілька ўжо мог доўга практыкавацца з гэтай зброяй, амаль як дарослыя. Ён ужо марыў, што хутка, праз якія тры, ад сілы чатыры вясны ён зможа стаць сапраўдным дружыннікам, такім жа, як яго бацька і два старэйшыя браты.

Ён вельмі зайздросціў сваім братам, бо яны цяпер былі далёка. Хлопчык паглядзеў на ўсход. Недзе там, дзе ўзыходзіць сонца, калі ехаць у той бок на кані амаль цэлы тыдзень, стаіць на беразе шырокай Дзвіны вялікі горад Полацк. У гэтым горадзе валадарыць разумны і моцны князь Брачыслаў. Менавіта ён загадаў пабудаваць родны Васількаў горад, ад чаго той і называецца Брачыслаўлем. Гэта адбылося, калі Васілька яшчэ не нарадзіўся. Але ён добра ведае гэтую гісторыю, бо менавіта яго бацька кіраваў пабудовай новага горада.

Васілька толькі аднойчы быў у Полацку, з бацькам, але гэта здарылася даўно, калі яму ішла толькі пятая вясна. Таму ў памяці амаль нічога не засталося, толькі асобныя аблічча людзей, дзіўныя пахі і гукі. Ён памятаў, што людзей было вельмі шмат, проста безліч. Многія насілі зусім дзіўную вопратку, такую, якую Васільку больш ніколі не даводзілася бачыць. Ён памятаў і нейкія незнаёмыя пахі. А найбольш моцна ў дзіцячую памяць урэзаўся гук званоў, што клікалі вернікаў да набажэнства. Магутны гук быў здалёк чутны над хвалямі Дзвіны. Зусім не тое, што гук адзінага невялічкага звона ў царкве Брачыслаўля.

Вось у гэтым вялізным і амаль казачным горадзе цяпер жылі абодва старэйшыя браты Васількі. І абодва яны былі дружыннікамі ў мудрага Брачыслава. Васілька страшэнна ім зайздросціў і хацеў найхутчэй далучыцца да сваіх братоў. Праўда, дадому яны цяпер заязджалі ўсё радзей. Хіба што раз на год даводзілася бачыць старэйшага, Мікулу, і другога па ўзросце, Дзімітра, у родным Брачыслаўлі. Але калі ўсё ж атрымлівалася ў іх завітаць дадому, дык усе мясцовыя хлапчукі зайздросцілі Васільку, бо ні ў кога больш не было такіх братоў. Магутныя, як асілкі, у аксамітных кафтанах, расшытых срэбнымі вылогамі, з паясамі, упрыгожанымі срэбнымі накладкамі, і з такімі ж, як у бацькі, дарагімі мячамі. Адразу было бачна, што служаць яны сапраўды вялікаму князю.

А ўжо колькі дзівосаў распавядалі браты, седзячы ў святліцы з іншымі дружыннікамі! Па такім выпадку ў тую святліцу пускалі нават хлапчукоў — сыноў дружыннікаў, хаця зазвычай нават зазіраць туды ім было строга забаронена, каб раптам не атрымаць бізуна. Распавядалі, колькі розных людзей прыплывае па Дзвіне да Полацка: купцы, паслы, вучоныя людзі, вандроўнікі-пілігрымы. І з краіны шведаў, і з зямель франкаў, і з далёкага востраў Англіі. А часам дабіраюцца да Полацка і гандляры з краіны арабаў, смуглявыя скурай, чорныя валасамі і з зусім незразумелай моваю.

Распавядалі таксама, што хоць Полацк і вельмі вялікі горад, ёсць на Русі і яшчэ большыя, а называюцца яны Кіеў і Ноўгарад. Але тут Васілька не мог паверыць нават сваім братам: хіба ж можа быць на свеце горад, яшчэ большы за Полацк!

Васілька зачараваны ўтаропіўся ў далягляд на ўсходзе. Ён марыў пра тое, як ужо хутка, вельмі хутка ён зможа далучыцца да сваіх старэйшых братоў, так жа аддана і верна служыць мудраму князю Брачыславу.

Васілька ажно заплюшчыў вочы ад сваіх салодкіх мрояў, але нечакана пачуў голас маці, прыцішаны высокімі гарадскімі сценамі. Маці клікала яго абедаць. Хлопчык зірнуў на сонца і нават здзівіўся, як гэта ён здолеў не заўважыць, што ўжо прыйшоў час есці. Абедаць, а пасля зноў практыкавацца ў вайсковай справе, з апошніх сіл, да поўнай знямогі, каб быць такім жа, як старэйшыя браты, а можа нават амаль такім, як яго бацька. Хлопчык узняўся і спрытна пайшоў па адхоне вала ўздоўж гарадской сцяны ў бок брамы.

Увечары, лежачы на палацях і адчуваючы прыемную стомленасць у руках і нагах, Васілька слухаў, як роўна дыхае побач яго маленькая сястрычка Міласлава. Ён вельмі стаміўся, бо стары Жызнамір, які навучае дзяцей дружыннікаў вайсковай справе, не дае ім ні хвіліны роздыху. Дарма што кульгавы, не мае левай рукі і бачыць толькі на адно вока. Але ж у маладосці змагаўся ў войску Рагвалода. Толькі, на жаль, ён так рэдка распавядае пра свае колішнія прыгоды. А заўтра Васількаў бацька разам з іншымі дружыннікамі едзе збіраць даніну з навакольных крывіцкіх вёсках. Таму ў хлопчыка пэўна не будзе зранку асаблівых хатніх спраў, і можна будзе адпрасіцца ў маці, каб пашпацыраваць па наваколлі. Ён падумаў, што зможа нават дайсці да Дазорнай гары, з якой бачная амаль уся іх валасць. Васілька вырашыў, што так ён і зробіць, і імгненна заснуў.

# «Кароль птушак»

Выстаўка аднаго дня кітайскага мастака У Цзіньляна прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі. Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця ўзялі ўдзел міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь Цуй Цымін, знакаміты калекцыянер Ліу Гуанцын, які арганізаваў 11 выставак кітайскіх мастакоў у Беларусі, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў.

Фота Кастуся Дробава



Кітайскі мастак У Цзіньлян знаёміць міністра культуры Беларусі Барыса Святлова са сваімі работамі.

У Цзіньлян спалучае ў сваіх творах традыцыі старажытнага і сучаснага мастацтва, піша ў стылі «малюнкі вадой і тушшу» (разнавіднасць больш агульнага стылю «гохуа»), працуе ў жанрах «горы і вада», «кветкі і птушкі», «бамбук». Кітайскі мастак шырокавядомы як «Кароль птушак», таму што выдатна іх малюе: яны сімвалізуюць сямейнае шчасце і радасць.

Кітайскі нацыянальны жывапіс «гохуа» бярэ свой пачатак у глыбокай старажытнасці. Па матэрыяле, тэхніцы і мастацкіх сродках ён адрозніваецца ад еўрапейскага. Выконваецца пры дапамозе пэндзля тушшу і фарбамі на спецыяльнай паперы або на шоўку. Адлюстраванні ствараюцца з дапамогай лінейнага малюнка, у той час як у еўрапейскім жывапісе — пры дапамозе аб'ёмаў і форм, колеру і святлаценю. Пейзаж у «гохуа» скіраваны на перадачу настрою, пры гэтым асаблівую ролю адыгрывае кампазіцыя. Жанры «горы і вада», «птушкі і кветкі» — найбольш папулярныя ў кітайскім жывапісе.

У традыцыйным пейзажы Кітая горы лічыліся ўвасабленнем мужчынскага светлага пачатку «ян», а вада — жаночага цёмнага пачатку «інь», з узаемадзеяння якіх, паводле старажытных паданняў, узнікае сусвет. Горы — косці зямлі, патокі вады — вены, кроў, што пульсуе і нясе жыццё і рух.

У кітайскім жывапісе злучаюцца свет вады, свет каменя і свет дрэва. Іх аб'ядноўвае асаблівая жывапісная арганізацыя часу і прасторы, якая з'яўляецца адлюстраваннем чацвёртага, найважнейшага свету. Да свету вады далучаюцца і аблокі — «нябесныя горы». Свет каменя спускае нас з неба на зямлю, бо камяні таксама ўтрымліваюць нябесны пачатак. Камяні лічыліся «касцяком Неба і Зямлі, манастыром духаў». Жанр «кветкі і птушкі» — таксама традыцыя ў мастацтве Кітая. Мастакі злучаюць густую туш з лёгкай, цёмную фарбу са светлай, і з-пад іх пэндзляў выходзяць загадкавыя абрысы птушак і кветак.

У Цзіньлян скончыў Цэнтральную акадэмію мастацтваў, праходзіў навучанне ў вядомых кітайскіх каліграфаў. Член Кітайскай асацыяцыі дзеячаў мастацтва, член Кітайскай асацыяцыі каліграфаў, член Асацыяцыі вядомых людзей КНР, старшыня Саюза кітайскіх і замежных дзеячаў мастацтва. Неаднаразова ўдзельнічаў у выстаўках у Кітаі і за мяжой, яго працы ўручаліся ў якасці падарункаў кітайскімі кіраўнікамі кіраўнікам дзяржаў і важным палітычным дзеячам замежных краін, у тым ліку прэзідэнтам і шматлікім кіраўнікам ЗША, Вялікабрытаніі, Карэі, Зімбабве, Францыі, Германіі і г. д. Творы мастака ўпрыгожваюць дзяржаўную рэзідэнцыю КНР «Чжунаньхай», маўзалей Маа Цзэдуна, будынак Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў, яны прадстаўлены ў «Каталогу вядомых сучасных кітайскіх мастакоў» і ў даведніку «100 кітайскіх мастакоў».

Арганізатарамі выстаўкі У Цзіньляна выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Канфедэрацыя творчых саюзаў Беларусі, рэдакцыя кітайскага часопіса «Форум Азіі» і Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ.

**Таццяна ШЫМУК**



# Твор як прадчуванне

Ці можа прывабіць звычайны пень, або крэсла, або лісток з дрэва? «Можа!» — сцвярджае сваімі малюнкамі мастак з Гродна Анатоль Скамарошчанка. Яго выстаўка «Гродна — Мінск. Прысутнасць» адкрылася ў Гарадской мастацкай галерэі Л. Шчамялёва.

Анатоль Скамарошчанка скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «Кераміка». Напэўна, таму ў яго работах так адчуваюцца дэкаратыўнасць ды інтэр'ернасць. Насычаныя, эмацыянальныя колеры: асабліва кранае сіні, заўсёды розны, глыбокі, незямны. Праўда, наідаборку і канвеернасць некаторых работ: «Лісток 1», «Лісток 2», «Лісток 3»…

За дэкорам — сімвалізм, фармалізм і філасофская знакавасць. Уменне пры дапамозе простых форм казаць пра складанае. Умоўна, без лішку дэталяў. Тыя ж «Лісты» маюць мноства сэнсаў: у іх можна ўбачыць псіхалагічны стан чалавека ў розных абставінах. Вяршыня сімвалізму мастака — работа «Старыя могілкі». Геаметрычныя фігуры (сіні круг могілак у белым квадраце палатна) робяць яе лаканічнай. Самі могілкі — звычайныя крыжы.

Сімвалічная геаметрыя карцін можа палохаць і адначасова адкрываць вялікія сэнсы. На першы погляд работа «Адзінаццаць» — набор хвалістых ліній. Але сам мастак сцвярджае адваротнае: «Я намаляваў яе 10 верасня 2001 года, на наступны дзень адбыўся тэракт у ЗША. Мне стала ўсё зразумела, было нейкае жудаснае прадчуванне. Назва карціны ўзнікла імгненна». На палатне няма веж-блізнят, няма выбуху, але ёсць прадчуванне чалавечай трагедыі. Мастак — майстар перадачы стану.

Анатоль Скамарошчанка, мастак-фармаліст, не адразу прыйшоў да жанру псіхалагічнага партрэта: усё ж такі ёсць розніца паміж геаметрычнымі абстракцыямі і вывамі чалавека. Але ён здолеў прыўнесці ў партрэт дух сімвалізму. Як вынік — неадназначныя і вельмі своеасаблівыя карціны, у якіх гіпертрафіраванасць формаў і фантастычнае гучанне перадаюць псіхалагізм лепей за любыя рэалістычныя малюнкі.

Куратар выстаўкі Крысціна Лядская так патлумачыла назву экспазіцыі: «Па-першае, мастак прысутнічае тут і цяпер разам са сваімі малюнкамі. Па-другое, такая назва — правакацыйная, як і любая з яго прац. Гэта неадназначнасць, загадка, рэбус. Паспрабуйце зразумець, чаму менавіта «Прысутнасць». Мо таму, што сам творца прысутнічае ў кожнай рабоце? Яго карціны правакуюць на кантакт, на дыялог».

Доўгі час, аддаючы перавагу сімвалізму і абстрактным формам, натхняючы работамі К. Малевіча і П. Мандрыяна, у нейкі момант свайго творчага станаўлення Анатоль Скамарошчанка стаў усё часцей звяртацца да больш рэалістычных сюжэтаў і мастацкіх прыёмаў. Аднак сімвалічны спосаб мастацкага мыслення і звычка да філасофскіх практыкаванняў з сэнсам нікуды не зніклі, і гэта надае работам непаўторны шарм. Прадметы, людзі, жывёлы, інтэр'еры і ландшафты гавораць з намі асаблівай мовай, самыя звычайныя рэчы набываюць нечаканы сэнс і распавядаюць незвычайныя гісторыі.

**Паліна ПЛАТАВА**

# Ансамбль з навуковым тытулам

Гісторыя вакальнага ансамбля «Чырвоны гваздзік» пачалася ў далёкім 1973 годзе. Сама ідэя стварыць у сценах вышэйшай навучальнай установы самадзейны творчы калектыў не была новай. У той час своеасаблівымі паказчыкамі далучанасці грамадзян да савецкай культуры служылі справаздачныя канцэрты ва ўсіх установах.

На адным з факультэтаў Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі (сёння БДЭУ) узнікла ідэя стварыць хор з выкладчыкаў-мужчын. Яго кіраўніком было вырашана на абраць загадчыка кафедры замежных моў Сяргея Галоўку, які скончыў Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі, працаваў у Дзяржаўным акадэмічным народным хоры БССР і ў хоры Белдзяржтэлерадыё БССР. У склад самадзейнага калектыву ўвайшлі выкладчыкі з розных кафедр: Б. Любчэўскі, В. Саломка, В. Соусь, М. Рабаконь, В. Танковіч, М. Яловіч і іншыя. Сёння шмат хто з удзельнікаў ужо не працуе ў БДЭУ, але на рэпетыцыі і канцэрты прыходзяць без спазнення!

Дэбютнае выступленне калектыву адбылося падчас агляду-конкурсу мастацкай самадзейнай творчасці студэнтаў і выкладчыкаў інстытута ў красавіку 1974 года. Упершыню прагучала песня Аркадзя Астроўскага на словы Льва Ашаніна «Чырвоны гваздзік», якая і дала назву мужчынскаму вакальнаму ансамблю прафесараў і дацэнтаў.

У 1980 годзе калектыву прысвоілі ганаровае званне «народны». Народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР Генадзь Цітовіч адзначыў, што нараджэнне ансамбля, у якім спяваюць выкладчыкі са шматлікімі навуковымі тытуламі, бясконца занятыя на сваёй рабоце, — з'ява неардынарная, і прытым, як жа хораша спяваюць!

Ансамбль «Чырвоны гваздзік» спрыяе павышэнню культурнага ўзроўню, фарміраванню густу і навыкаў мастацкай творчасці, патрыятычнаму і эстэтычнаму выхаванню моладзі.

**Сяргей ПЯТРОЎСКІ**

# З часоў ВКЛ…




Сёлета ў красавіку адзначаецца 150-годдзе з дня заснавання Віленскай археаграфічнай камісіі, вядомай таксама як Віленская камісія для разбору і выдання старажытных актаў.

Да гэтай знамянальнай даты ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Гісторыя Беларусі ў дакументах». У экспазіцыі прадстаўлены ўнікальныя матэрыялы, якія дапамагаюць асэнсаваць справы археаграфічнай камісіі, што дзейнічала на працягу 1864 — 1915 гг. у Вільні. У розны час актыўнымі супрацоўнікамі ўстановы былі выбітныя навуковыя і грамадскія дзеячы: П. Бяссонаў, Я. Галавацкі, М. Гарбачэўскі, Ф. Дабранскі, Д. Даўгяла, Ю. Крачкоўскі…

Сваю галоўную задачу камісія бачыла ў публікацыі дакументаў пра гістарычную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Асновай для выдання шматтомнага збору сталі матэрыялы, якія захоўваліся ў Віленскім цэнтральным архіве і іншых дзяржаўных установах. Дакументы адлюстроўвалі жыццё грамадства на тэрыторыі ваяводстваў і паветаў, гарадоў і мястэчак, вёсак і шляхецкіх засценкаў Віленшчыны, Гродзеншчыны, Ковеншчыны, Міншчыны.

Віленскай камісіяй было складзена і выдадзена 49 тамоў, дзе змешчаны старажытныя акты да 1799 года ўключна. Прадстаўленыя ў зборы матэрыялы даюць шырокае ўяўленне пра палітычнае, адміністацыйнае і культурнае жыццё грамадства на працягу доўгага часу. Як сведчаць даследчыкі, цікавіліся апублікаванымі дакументамі не толькі жыхары нашых зямель, але і шматлікія замежнікі. І сёння гэтыя працы з'яўляюцца важнай крыніцай для вывучэння гісторыі, эканомікі, права і культуры Беларусі.

**Святлана ПАЎЛАВІЦКАЯ,**
**галоўны бібліятэкар аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі**

# Сустрэчы на «Алімпе»

Літаратурна-музычная гасцёўня «Алімп», заснаваная пры Слуцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы, працуе ўжо трыццаць гадоў.

Тут адзначаюць юбілейныя даты пісьменнікаў, паэтаў, музыкантаў, ладзяць прэзентацыі кніг, творчыя вечарыны, ушаноўваюць памяць славутых землякоў. «Алімп» — своеасаблівы цэнтр творчага супрацоўніцтва, духоўных зносін майстроў пяра, прадстаўнікоў тэатральнай і музычнай сцэны. Гасцёўня спрыяе таму, каб чалавек не замыкаўся ў сабе, імкнуўся да духоўнасці.

Святло ў «Алімпе» ў 1983 годзе «запаліла» былы дырэктар цэнтральнай гарадской бібліятэкі Тамара Шахновіч. Пра тое, каб гасцям было ўтульна, клапацілася былы загадчык аддзела абслугоўвання Мая Казека. Душой гасцёўні і яе арганізатарамі з'яўляліся былы дырэктар раённай цэнтральнай бібліятэкі Людміла Лазоўская і загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацы чытачоў Галіна Пенязь.

Завітваюць у гасцёўню людзі рознага ўзросту і прафесій, якіх аб'ядноўвае любоў да кнігі, мастацтва. Тэмы для сустрэч выбіраюцца розныя, многія пасядзэнні прысвячаюцца гісторыі роднага краю. Частыя госці «Алімпа» Уладзімір Садзін, Валянціна Відлога, Рыгор Родчанка, Ігар Ціткоўскі. Цудоўныя сцэнары для мініспектакляў стварылі Людміла Наруш, Лідзія Біркас, Сяргей Ануфрэйчык. У гасцёўні прайшлі сустрэчы з Андрэем Скарынкіным, Алегам Буркіным, членамі літаратурнага аб'яднання «Случ», адбываліся прэзентацыі кніг Яўгена Гучка, Сяргея Пятрова, Юрыя Татарынава. Вялікую цікавасць у присутных выклікала краязнаўчая вечарына «Святая заступніца зямлі Слуцкай».

Яркімі, запамінальнымі атрымаліся творчыя сустрэчы з беларускімі пісьменніцамі Наталляй Батраковай і Тамарай Лісіцкай, пісьменнікам, публіцыстам, галоўным дырэктарам радыё «Беларусь» Навумам Гальпяровічам.

Да Дня горада, напярэдадні абласнога свята рамёстваў «Слуцкія паясы», была падрыхтаваная літаратурна-музычная вечарына «Случанка зладзіць зноў красенцы, каб ткаць златыя паясы». А напрыканцы мінулага года гасцёўня «Алімп» запрасіла на паэтычны монаспектакль «Гімн таленту славутаму паэту», прысвечаны 215-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

**Валянціна ЦЭГАЛКА,**
**загадчык аддзела абслугоўвання Слуцкай раённай цэнтральнай бібліятэкі**

# Шчырае слова жыве!

Прэзентацыя зборніка паэзіі Аляксандра Стасюка «Званы Палесся» адбылася ў спецыялізаванай бібліятэцы № 12 г. Брэста. На жаль, без аўтара. Яго не стала год таму... А паэт так марыў убачыць сваю кнігу, патрымаць яе ў руках, падарыць блізкім людзям. Мару ажыццявілі родныя і сябры-творцы.

Аляксандр нарадзіўся ў Іванаўскім раёне. Закончыў Моладаўскую сярэднюю школу і будаўнічае вучылішча, служыў на флоце, потым працаваў мантажнікам-вышыннікам. У 1987 годзе лёс крута паламаў яго жыццё: у выніку няшчаснага выпадку на будоўлі хлопец быў сур'ёзна траўміраваны, страціў зрок. Але не зламаўся, захаваў любоў да жыцця і людзей, пра што шчыра пісаў у сваіх вершах, паэмах, песнях, якія, дарэчы, выконваў сам.

Аляксандр верыў, што справіцца, будзе жыць, тварыць, выхоўваць дзяцей. Душа паэта заўсёды цягнулася да людзей — каб аддаць ім часцінку свайго цяпла.

Дзякуючы настойлівасці і веры ў самога сябе паэту ўдавалася быць клапатлівым бацькам, добрым мужам і сынам, патрэбным чалавекам у грамадзе. Гэта па яго прапанове пры спецбібліятэцы быў арганізаваны творчы клуб «Вытокі», які затым вырас у літаб'яднанне, дзе праводзіліся літаратурныя вечары, конкурсы, канцэрты.

Друкаваўся А. Стасюк у калектыўных зборніках «Убачыць сэрцамі», «За всё тебя благодарю», «Дазволь прычасціцца», у перыядычным друку. Вершы пісаў на беларускай і рускай мовах.

Творца ўмеў радавацца за сяброў, якія выдалі кнігі, і марыў пра ўласны зборнік. Цяпер кніга ёсць у многіх прыхільнікаў. Шчырыя словы паэта, светлыя думы, узнёслыя мары і надзеі засталіся жыць...

**Надзея ПАРЧУК**

# Па натхненне ў клуб

З розных куткоў Міншчыны прыязджаюць аматары паэзіі на імпрэзы ў клуб «Натхненне», які ўжо два дзесяцігоддзі працуе пры Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў і з 2011-га носіць званне «народны». Члены гэтай творчай суполкі ладзяць сустрэчы з паэтамі ды пісьменнікамі і па-за межамі нашай сталіцы.

Адна з іх адбылася ў Жодзінскай гарадской бібліятэцы па ініцыятыве вядучага бібліятэкара гэтай установы Ірыны Хілюціч. Сярод гасцей — члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрый Дземідовіч, Рэгіна Рэўтовіч, кіраўнік клуба «Натхненне» Вольга Сакалова, літаратуразнаўца, прафесар Віталь Маслоўскі. З вялікай увагай слухалі госці імпрэзы расповед Віталя Іванавіча пра стасункі з Аркадзем Куляшовым, яго родным дзядзькам. Гутарка атрымалася шчырай і сардэчнай.

Потым гучалі вершы. Іх чыталі і госці, і мясцовыя паэтэсы, члены «Натхнення», — Святлана Вяргеенка і Ганна Карпік.

**Алеся ЛІСТАПАД**

# Вясёлы казачнік

На сустрэчу з дзіцячым пісьменнікам Валерыем Квілорыя прыйшлі вучні малодшых класаў смаргонскай гімназіі. Але гэта мерапрыемства магло б стаць сапраўдным майстар-класам для дарослых. Валерый Тамазавіч распавёў прысутным не толькі пра тое, як *пісаць* для дзяцей, але і тое, як трэба *чытаць*, каб прыцягваць увагу малых. Мяркую, што задавальненне атрымалі не толькі школьнікі, але і іх настаўнікі, і, канечне, супрацоўнікі смаргонскіх цэнтральнай і дзіцячай раённай бібліятэк, па ініцыятыве якіх праводзілася гэтая сустрэча.

Валерый Квілорыя — журналіст, пісьменнік, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Руская прэмія» 2006 года (Масква), аўтар захапляльных апавяданняў, выдавец. Акрамя ўласных кніг (многія з якіх, дарэчы, ёсць у смаргонскіх кніжніцах) ён прывёз і творы іншых дзіцячых пісьменнікаў.

Госць аказаўся чалавекам надзвычай цікавым, лёгка знайшоў шлях да сэрцаў юных чытачоў, умела трымаў увагу аўдыторыі. Літаратар прызнаўся, што першыя казкі пачаў складаць для сваёй маленькай дачушкі.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**



Герб Тышкевічаў.

# Аўтограф Яўстафія Тышкевіча

У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца спадчына беларускага гісторыка, археолага, этнографа, краязнаўцы, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі Яўстафія Піевіча Тышкевіча (1814 — 1873).

Шляхецкі род Тышкевічаў (з 1528 г.) даў беларускай зямлі шмат таленавітых людзей. Бацька Яўстафія, гаспадар графства Піус Феліцыянавіч Тышкевіч, шмат зрабіў для памнажэння культурнай спадчыны радавога памесця ў Лагойску. У маёнтку была немалая бібліятэка, якая пастаянна папаўнялася рарытэтамі. Другая жонка графа, маці Яўстафія, Аўгуста Плятэр (паходзіла са знатнага нямецкага роду) привезла ў Лагойск частку краслаўскага кнігазбору (3000 тамоў) на польскай, старабеларускай, французскай, лацінскай і іншых мовах. Яна збірала рукапісныя кнігі і дакументы па гісторыі. Гонарам сямейнай бібліятэкі з'яўляліся старадаўнія рукапісы, гістарычныя карты, на якіх можна было адшукаць Барысаўшчыну і Міншчыну са старажытным Лагойскам.

Яўстафій, малодшы з Тышкевічаў, нарадзіўся ў Лагойску. Атрымаўшы дома пачатковую адукацыю, ён паехаў вучыцца ў Вільню, потым пераехаў у Мінск. Службу пачынаў у даволі прэстыжнай установе Расійскай імперыі — ордэнскім капітуле, які падпарадкоўваўся толькі цару і сенату, потым Вільня і Харкаў, канцылярыя генерал-губернатара. Праз нейкі час Тышкевіч прапанаваў сваю кандыдатуру на пасаду ганаровага наглядчыка вучылішча Барысаўскага павета і атрымаў згоду з боку апекуна Беларускай вучэбнай акругі. На ўласныя сродкі пабудаваў памяшканне Барысаўскага паветовага вучылішча. Гэта заўважылі, па заслугах ацанілі і абралі Яўстафія маршалкам шляхты Барысаўскага павета.

Але ж асноўным заняткам была навука. Кожнае лета ён даследаваў курганы на Лагойшчыне, Барысаўшчыне, Міншчыне, у Друцку, Лідзе, Крэве, Міры… Першае навуковае паведамленне пра раскопкі з'явілася ў газеце *Tygodnik Petersburski* («Штотыднёвік Пецярбургскі») у 1837 г., калі Яўстафію споўнілася ўсяго 23 гады. Тады ён зрабіў у даследаваннях выснову, што на Лагойшчыне жыло загадкавае племя, якое даўно вымерла.

Найбольшае месца ў яго даследаваннях займалі Барысаўшчына і Лагойшчына. Тут яму дапамагалі бацька і брат Канстанцін. Кожная экспедыцыя, кожны вывучаны помнік давалі багаты матэрыял не толькі для навуковай публікацыі, але і для лагойскага музея. Акрамя археалагічных знаходак у ім былі калекцыі манет, гербаў, мастацкія палотны і інш. На прыметнае месца выстаўляліся самыя каштоўныя экспанаты: зброя рыцара, інкунабулы, творы мастацтва. Былі прадстаўлены і ўнікальныя прадметы, якія дарылі Тышкевічам госці.

Праз пэўны час Яўстафій адкрыў музей старажытнасцей у Вільні. З Лагойска перавезлі археалагічныя калекцыі, кніжныя фаліянты, нумізматычныя зборы… Сам даследчык ахвяраваў уласную бібліятэку і археалагічную калекцыю з 2000 адзінак. Ужо ў першыя два гады працы гэтай установы ў каталогу зарэгістравалі 10000 музейных прадметаў.

Перад уваходам у музей умацавалі гербы чатырох губерняў: Віленскай, Мінскай, Гродзенскай і Ковенскай — Вільня была цэнтрам генерал-губернатарства ўсёй гэтай тэрыторыі. Пры музеі працавала Археалагічная камісія, старшынёй якой абралі Яўстафія. Штогод летам выпраўляліся экспедыцыі. Даследаванні ў асноўным вяліся на тэрыторыі Беларусі. Напрыканцы года на пасяджэнні Віленскай археалагічнай камісіі кожная экспедыцыя рабіла справаздачу ў выглядзе рэфератаў, якія змяшчаліся на старонках «Записок Виленской Археологической комиссии». У абмеркаванні вынікаў здзейсненых вандровак удзельнічалі многія члены камісіі, але найперш Яўстафій.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі захоўваюцца тры экзэмпляры «Записок Виленской Археологической комиссии» за 1856 і 1858 гг. Найбольшую цікавасць для нас, бібліятэкараў, уяўляюць меняніта асобнікі з друкарні І. Завадскага, выдадзеныя ў 1856 г., у якіх ідзе гаворка пра ўласную бібліятэку Я. Тышкевіча. У першай частцы друкуецца «Положение о Музеуме древностей и временной Археологической комиссии в Вильне», зацверджанае «Его Императорским Величеством». Тут адзначана, што сабраныя ў Музеуме каштоўнасці — з Заходняга краю Расіі, і гэта «доставит возможность воспользоваться ими к изучению края, не только в историческом, но и в торговом, промышленном, естественном, сельско-хозяйственном и статистическом отношениях…»

Адзначана таксама, што бібліятэка Я. Тышкевіча налічвае 3000 тамоў. Большасць кніг — на гістарычную тэму, таксама ёсць бібліяграфічныя асобнікі. А яшчэ 7000 тамоў дастаўлена «из упраздненных Р. К. монастырей здешних губерний». Аздабляе скарбніцу старажытнасцей шматлікая колькасць гравюр, геаграфічных карт і атласаў, медных гравіраваных дошак (колькасцю 1000 адзінак). Сярод гравюр ёсць некалькі вельмі рэдкіх — працы вядомых у той час гравёраў Хадавецкага, Плонскага, Серакоўскага і інш. Каштоўны збор дапоўнены старажытнымі рукапісамі, а таксама аўтографамі ўсіх уладароў Вялікага Княства Літоўскага пачынаючы ад Аляксандра (з 1492 г.).

У 1991 г. у аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў трапіла кніга з асабістай бібліятэкі Я. Тышкевіча з яго аўтографам на тытульным аркушы. Гэта вядомае «Апісанне Барысаўскага павета…» («Opisanie powiatu Borysowskiego…», 1847 г.), якое стала вынікам яго дзейнасці на Барысаўшчыне. На экзэмпляры апрача аўтографа аўтара — уладальніцкі запіс «С. Щербаков». Гэты гісторык перадаў у бібліятэку НАН Беларусі свой архіў і кнігі, сярод якіх была гэта. «Opisanie powiatu Borysowskiego» — віленскае выданне з друкарні вядомага ў той час рэдактара і публіцыста Антона Марціноўскага, аздоблена гравюрай Яэпа Азямблоўскага «Сяляне з барысаўскага наваколля» на шмуцтытуле.





Для сваёй кнігі Я. Тышкевіч некалькі гадоў збіраў першакрыніцы па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, літаратуры, мастацтве, археалогіі, фальклоры. Яго памочнікі — К. Адамовіч, П. Чачот, Я. Ванькові, В. Гарноўскі, брат Канстанцін… Найбольш спрыялі выхаду выдання ягоныя бацькі. Амаль дзесяць гадоў Я. Тышкевіч ствараў гэты ўнікальны краязнаўчы кнігазбор, дзе кожны факт, кожная дата выверана, прааналізаваны. Паказана гісторыя развіцця Барысава, важныя старажытныя аб'екты горада. Спаслаўшыся на Адама Нарушэвіча, краязнавец апісаў мясцовы замак, які быў пабудаваны на высепе, на высокім падмурку. Больш за ўсё Я. Тышкевіча цікавіла знаходжанне капішча старажытнага горада. Краязнавец падрабязна распавядае пра мясцовыя дынастыі, што валодалі Барысавам, і найважнейшыя падзеі рэгіёна. У «Апісанні Барысаўскага павета» ён паказвае мясцовы замак з высокімі землянымі валамі, які меў абарончае значэнне. Падае гісторыю Лагойскага графства. Ёсць інфармацыя і пра лагойскі музей, матэрыяламі якога карысталіся Тышкевічы. Аўтар змясціў біяграфічныя даведкі пра сваіх землякоў, у прыватнасці, пра археографа, прафесара Віленскага ўніверсітэта С. Жукоўскага ды літаратара і фальклярыста І. Шыдлоўскага. Адзін з першых у беларускай фальклярыстыцы і этнаграфіі Я. Тышкевіч узгадаў усе тутэйшыя абрады, звычаі і песні. Тэксты не мяняў — такім чынам захоўваў асаблівасці беларускай мовы.

Дзейнасць Віленскага музея старажытнасцей і Віленскай археалагічнай камісіі была спынена пасля паўстання 1863 — 1864 гг. Улады пачалі разглядаць музей як адзін з цэнтраў «польскай інтрыгі», і паводле загаду генерал-губернатара М. Мураўёва ў 1864 г. ён быў афіцыйна забаронены. Экспанаты музея накіравалі ў Маскву. Тышкевіча вызвалілі ад усіх пасад. У маі 1862 г. Вільню наведаў вядомы рускі гісторык, член-карэспандэнт Імператарскай Санкт-Пецярбургскай акадэміі навук М. Кастамараў. У сваіх успамінах ён напіша пра сустрэчу з беларускім даследчыкам: «Заведуя историческим музеем, состоявшим при виленской Археографической Комиссии, он преимущественно обращал внимание на памятники времён господства польского элемента в Литве и от этого, в последующее время, русские люди, занимавшиеся литовской археологией, были им недовольны и говорили, что он умышленно старался оставить в тени и забыть всё, что напоминало о бывшем некогда господстве православной веры и русскаго языка в Вильне. Справедливо ли такое составившееся о нём мнение — я не беру на себя решать».

Праз год Я. Тышкевіч пакінуў Вільню і пасяліўся ў глухім мястэчку Біржы на поўначы Жмудзі, дзе працаваў над кнігай-альбомам пра свой лагойскі радавод. У 1872 г. выйшла яго кніга «Археалогія на Літве». Выданне стала, па сутнасці, кропкай у напружанай, амаль 40-гадовай працы даследчыка. Апошнія ж дні жыцця Яўстафій правёў у Вільні. Прызнаны вучоны, ён быў членам Дацкага каралеўскага таварыства аматараў паўночных старажытнасцей, Стакгольмскай Каралеўскай акадэміі выяўленчага мастацтва і старажытнасцей, Лонданскага археалагічнага інстытута, ганаровым членам Пецярбургскай Акадэміі навук.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа**

# Музыка паэзіі

Рыхтуючыся да сустрэчы з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэатам Міжнароднага конкурсу «100 лепшых кніг свету», членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтам Міхасём Башлаковым, супрацоўнікі Ратамскай сельскай бібліятэкі, што ў Мінскім раёне, вельмі хваляваліся. І дарэмна.

З першых жа слоў, звернутых да аўдыторыі, Міхась Захаравіч настолькі захапіў юнакоў і дзяўчат сваёй шчырасцю, што час, які ён нам падараваў, праляцеў імгненна. А колькі музыкі ў яго паэзіі — чыстая, лёгкая, пранікнёная! Зборнік вершаў «Віно адзінокіх» дорыць сапраўдную асалоду ад успрымання роднага слова.

Упэўнена, вершы Міхася Башлакова, аднойчы запаўшы ў душу, застаюцца там назаўжды. Іх хочацца чытаць і перачытваць, завучваць на памяць.

**Алена ЗУБОВІЧ,**
**загадчыца Ратамскай сельскай бібліятэкі**

# Чытаць — гэта цікава!

Сучасныя дзеці сапраўды не спяшаюцца ўзяць у рукі кнігу — шмат часу яны праводзяць за камп'ютарам. Што ж можа зрабіць школьны бібліятэкар, каб дапамагчы і дзіцяці, і настаўнікам?

Думаю, перш за ўсё ён павінен сам любіць кнігу. І прапагандаваць яе. Упэўнена, заахвочваюць дзяцей да чытання сустрэчы з творцамі.

Пачуць ад пісьменніка, з якой павагай і любоўю гаворыць ён пра кнігу, — добры прыклад для нашых вучняў. Такая цікавая сустрэча адбылася у гімназіі г. Фаніпаля. У госці да малодшых школьнікаў і іх настаўнікаў завітаў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Міхась Паўлавіч вёў размову пра тое, да чаго не можа ставіцца раўнадушна кожны чалавек. Мора эмоцый выклікалі загадкі, зададзеныя паэтам. Тыя, хто даваў правільныя адказы, атрымалі ад пісьменніка прызы — кнігі і часопісы.

**Людміла ДЗЯДЗЮЛЯ,**
**загадчыца бібліятэкі ДУА «Гімназія Фаніпаля»**

# Распавёў зямляк

Супрацоўнікі Клімавіцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі зладзілі сустрэчу з паэтам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Салаўцовым.

Мікалай Іванавіч — выпускнік Клімавіцкага ветзаатэхнікума. Таму мерапрыемства праходзіла ў бібліятэцы сённяшняга аграрнага каледжа. Наш зямляк — аўтар зборнікаў вершаў для дарослых і дзяцей: «Азбука зорнага неба», «Жыцця акорды», «Вясёлка лёсу», «Сінія валошкі», «Вавёрчын веласіпед», «Чаму плуг не ржавее».

Студэнты і бібліятэкары чыталі вершы Мікалая Салаўцова, адказвалі на пытанні літаратурнай віктарыны па творчасці паэта. Самым актыўным удзельнікам аўтар падарыў свае кнігі з аўтографам.

З захапленнем слухалі прысутныя расповед Мікалая Іванавіча пра сустрэчы з Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Васілём Быкавым.

**Тацццяна ДАМЕНІКАН,**
**дырэктар дзяржаўнай установы культуры «Клімавіцкая бібліятэчная сетка»**

# Прынашэнне майстру

**Выхад спевака на вялікую оперную сцэну — вынік доўгай і карпатлівай працы ў рэпетыцыйнай зале. Галоўная работа над партыяй праходзіць у вакальным класе: адзін на адзін з канцэртмайстрам адточваецца кожная нота, удасканальваецца вакальная тэхніка, шукаюцца яркія фарбы і дакладныя рысы. Знайсці «свайго» канцэртмайстра — шчасце для кожнага спевака. Сярод аўтарытэтных і дасведчаных оперных канцэртмайстраў Вялікага тэатра Беларусі — заслужаная артыстка Ларыса Талкачова. На яе творчым рахунку праца над дзясяткамі оперных спектакляў у супрацоўніцтве са славутымі беларускімі дырыжорамі Таццянай Каламійцавай, Уладзімірам Машэнскім, Газізам Дугашавым, Яраславам Вашчаком, Генадзем Праватаравым. У вакальным класе Ларысы Талкачовай пабывала некалькі пакаленняў выдатных беларускіх спевакоў, з якімі яна прайшла шлях ад маленькіх роляў да вядучых партый у сусветным оперным рэпертуары. Днямі знакаміты канцэртмайстар адсвяткавала 75-годдзе, а сёння у Камернай зале Вялікага тэатра адбудзецца канцэрт «Прынашэнне майстру», прысвечаны яе юбілею.**



*Ларыса Талкачова.*

**— Ларыса Сямёнаўна, вы прыйшлі ў тэатр услед за сваім бацькам, легендарным піяністам Сямёнам Талкачовым. Ці дасталося вам ад яго штонебудзь у спадчыну?**

— Старэйшае пакаленне спевакоў — Мікалай Ворвулеў, Зіновій Бабій, Аркадзь Саўчанка, Тамара Ніжнікава, Віктар Чарнабаеў — у асноўным супрацоўнічала з маім бацькам, але і на мой прафесійны лёс хапіла шчаслівых творчых сустрэч з выдатнымі беларускімі спевакамі. Мы супрацоўнічалі з Аскольдам Сухіным, Аляксандрам Рудкоўскім, Тамарай Шымко, Нінэль Ткачэнка, Наталляй Кастэнка, Людмілай Златавай, Людмілай Колас, Юрыем Бастрыкавым, Святланай Данілюк, Марыяй Гулегінай, Наталляй Рудневай, Ірынай Шыкуновай, Яраславам Пятровым, Уладзімірам Пятровым, Анастасіяй Масквіной, Аксанай Волкавай — усіх не пералічыць!..

Паступаць вырашыў у Маскоўскую кансерваторыю (а конкурс быў 300 піяністаў на 8 месцаў!) да самога К. Ігумнава. Ажаніўся, працаваў салістам Маскоўскай філармоніі, аднак з-за кватэрнага пытання быў вымушаны пераехаць разам з маці ў Санкт-Пецярбург. Гэта цяпер кожны буйны горад мае свой оперны тэатр, а раней такога не было. У 1930-я гады арганізавалася раз'ядная Усходне-Сібірская опера, і бацька падпісаў кантракт — працаваў суткамі, вучыў клавіры, назапашваў рэпертуар. Праз некаторы час тэатр распаўся, бацькі пераехалі ў Мінск. Дакладна не ведаю, чаму так адбылося, але мяркую, гэта неяк звязана з Л. Александроўскай, якая тады і вызначала напрамак развіцця беларускага опернага мастацтва. Усе тэатральныя ўрокі і рэпетыцыі праходзілі на маіх вачах. А калі мы з бацькам прыходзілі ў бухгалтэрыю па зарплату, мяне заўсёды прасілі праспяваць арыю Мікаэлы! З дзяцінства я глядзела ўсе спектаклі, слухала Л. Александроўскую, І. Балоціна, Р. Млодэк, С. Друкер, Э. Дзянісава — дзіцячыя ўражанні засталіся ў памяці і аказалі велізарны ўплыў на маё далейшае жыццё.

**— Напэўна, вы з дзяцінства разумелі, што вам шлях толькі ў музыканты?**

— Зусім не! Мне вельмі падабаўся балет, і я хацела танцаваць. Маці маёй сяброўкі была балерынай, таму мы забаўляліся прымеркай пачак, хітонаў і танцамі ў іх. На прыём у харэаграфічнае вучылішча я пайшла, не папярэдзіўшы бацькоў. Там адбыўся перапалох — з марай стаць балерынай давялося расстацца. У шэсць гадоў бацька адправіў мяне займацца фартэпіяна (педагог Р. Шаршэўскі), сачыў, як і што я вывучаю. Яго ўвага, дапамога і падказкі вызначылі той шлях, па якім я ў рэшце рэшт накіравалася.

**— Як складвалася ваша тэатральнае жыццё?**

— У тэатр я прыйшла ў 1961 годзе, першым спектаклем стала опера «Заручыны ў манастыры» С. Пракоф'ева, над якой мы працавалі з Таццянай Каламійцавай. Прыемна, што такі масціты, аўтарытэтны музыкант і дырыжор паверыла ў мяне. Пасля была пастаноўка «Папялушкі» ў балеце, і гэта вырашыла ўсё... Зразумела, мы з Таццянай Міхайлаўнай часам спрачаліся, і хоць гаспадар спектакляў — дырыжор, мне неаднойчы ўдавалася яе «пераламіць».



*Ларыса Талкачова з вядучымі салісткамі беларускай оперы Аксанай Волкавай і Анастасіяй Масквіной, 2003 г.*

Дарэчы, спектакль «Папялушка» — не адзіны мой досвед у балеце. Аднойчы харэограф Атар Дадзішкіліяні прапанаваў сумесную работу — паставіць спектакль «Харэаграфічныя мініяцюры», да якога ўвесь музычны матэрыял дазволіў падабраць мне. Там былі і Рахманінаў, і Чайкоўскі, і Дэбюсі, і Шапэн. Акрамя такога карыснага досведу існуе вялікая колькасць яркіх спектакляў, над якімі мне давялося папрацаваць: «Багема» Д. Пучыні, «Дон Жуан» В. Моцарта, «Казкі Гофмана» Ж. Афенбаха, «Пікавая дама» П. Чайкоўскага, «Кавалер руж» Р. Штраўса, «Зорка Венера» Ю. Семянякі, «Джардана Бруна» С. Картэса, першая пастаноўка «Сівой легенды» Д. Смольскага…

**— Майстэрства канцэртмайстра — адчуваць вакальныя тонкасці і дапамагаць спеваку абыходзіць падводныя камяні партый. Як вы з гэтым спраўляецеся?**

— Вельмі дапамагае тое, што ў мяне ёсць пеўчы голас: высокае сапрана. У юнацтве я нават думала пра тое, каб стаць спявачкай. Лёс звёў мяне з адной «італьянкай» — так мы яе называлі, — беларускай Руфінай Вайн, якая вучылася ў неапальскай кансерваторыі. Яна вярнулася на радзіму і, маючы сапраўдную італьянскую вакальную школу, пачала выкладаць маладым беларускім спевакам. На працягу трох месяцаў я брала ў яе прыватныя ўрокі, але з-за падрыхтоўкі да першага рэспубліканскага конкурсу піяністаў (лаўрэатам якога я потым стала) заняткі давялося перарваць. Дзякуючы тым навыкам я заўсёды магу дапамагчы спевакам.

У мяне было шмат камічных выпадкаў, звязаных з вакалам. Аднойчы мы з Віктарам Скарабагатавым паўтаралі партыю Фігаро, узялі дуэт Разіны і Фігаро, у дапамогу я пела Разіну. Мы спявалі на вялікім пад'ёме і так разышліся!.. Тут адчыняюцца дзверы ў клас, уваходзіць дырыжор Генадзь Праватораў: «Гэта вы спявалі?» Адказваю: так, я. «Вельмі добра!..» А потым ён зразумеў няёмкасць моманту і сказаў В. Скорабагатаву: «Вы таксама вельмі добра спявалі!» Ад гэтых слоў нам стала яшчэ весялей! Ці, напрыклад, аднойчы дырыжор Уладзімір Машэнскі праводзіў спеўку па оперы «Травіята», выканаўца партыі Віялеты захварэла, але сказала, што на спектакль выйдзе. А як на спеўцы без галоўнай гераіні прайсці ўсе ансамблі і дуэты? І вось за Віялету давялося спяваць мне, апусціўшы, аднак, некаторыя месцы на актаву ніжэй. Пасля спеўкі У. Машэнскі падышоў да мяне і сказаў: «Ларачка, калі б у вас быў верхні рэгістр, я даў бы вам спектакль!»

**— Не толькі шматлікія маладыя спевакі дзякуючы вам сталі зоркамі опернай сцэны. Праз ваш кансерваторскі клас прайшло і новае пакаленне оперных канцэртмайстраў, якія сёння — і вашы вучні, і калегі па тэатры…**

— Так, мне вельмі прыемна, што музыканты, з якімі я працавала і якіх вучыла, сёння могуць самі падрыхтаваць цікавую творчую праграму для публікі. За фартэпіяна на юбілейным вечары будуць мае былыя студэнты: канцэртмайстры оперы Святлана Колас-Іванова, Ларыса Церахава, Юлія Шчарбакова і канцэртмайстар хору Аляксей Усачоў. Разам з салістамі Вялікага тэатра Беларусі Анастасіяй Масквіной, Наталляй Акінінай, Марынай Аксёнцавай, Таццянай Гаўрылавай, Эдуардам Мартынюком, Васілём Мінгалёвым, Ільёй Сільчуковым яны выканаюць арыі і дуэты з опер М. Мусаргскага, П. Чайкоўскага, Г. Даніцэці, Д. Вердзі і Д. Пучыні.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ,**
**фота з асабістага архіва Ларысы Талкачовай і архіва Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2511.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.04.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1475.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686